**Сяргей Дубавец**

# Сіні карабель у блакітным моры плыве

**або**

***Шукальнікі вечнасьці***

**Мінск**
**“Ковчег”**
**2014**

ЗЬМЕСТ

*Зь першае ноты валторна гучыць як паніхіда. Гэта хаўтуры па табе. У пачатку заўсёды зашыфраваны канец. Але табе не канец, значыць, гэта толькі гульня, толькі шыфр, і ўсё толькі пачынаецца. Вось валторна саскочыла на другую ноту, крыху замарудзіла, каб ты яшчэ раз засумняваўся. І вось ужо трэцяя і чацьвертая ноты. Не канец! Што, безумоўна, дадае ўпэўненасьці. А тут яшчэ расчулася раптам трымценьне струнных — пачалася артпадрыхтоўка да чагосьці большага. Гэта пагрозьлівае нізкае трымценьне, але ў той пагрозе, што раз-пораз нарастае і ўздымаецца ўгору, ужо прамалёўваецца прадчуваньне шчасьця. Яшчэ крыху, і ўступяць габоі.*

*Ты кажаш, што твор пасрэдны. Я і сам здагадваюся. Але што з таго, калі мне гэта падабаецца слухаць? У дзяцінстве я валторны з габоямі не разумеў, а трубу дык і проста ненавідзеў.*

*Так яна страшна выла, калі пад вокнамі праходзіла жалобная працэсія, і даводзілася зашывацца ў самы далёкі і цёмны кут. Але яна даставала і там. Не было ратунку.*

*А цяпер – вось яны, габоі! І на іх проста зьверху – нібы коньніца-лётніца – скрыпкі – навальваюцца ўсёй сваёй мітусьнёй... Ведаеш, у дзяцінстве мы не ўспрымаем гукі, што напоўненыя сакральным зьместам. Часта ў чалавека гэтае неразуменьне застаецца на ўсё жыцьцё. Здавалася б, ён дарос ужо да таямніцаў сакрамэнту, і валторны з габоямі раптам сталі сэнсоўнымі і важнымі. Але толькі не для яго. Ён папросту ня вырас.*

*А ты ці вырас? Калі спалохаўся паніхіды, гэта яшчэ нічога ня значыць. Сапраўды, пахавальныя працэсіі ў дзяцінстве млосныя і страшныя. Пакуль ты не зразумееў, што ў кожным канцы зашыфраваны пачатак. Гэта калі ты на вуліцы раптам сустрэўся з гукамі жалобнага маршу. А ў мастацтве ўсё наадварот. Цябе проста зьбілі з тропу. Ты думаў, што ўлавіў гукі канца. Складальнікі музыкі любяць такія штукі. У іх гэта называецца – катарсіс. Памятаеш, як Дастаеўскага вялі на сьмерць, а потым сказалі, што стоп! усё адмяняецца. Ты стаіш бяз-*

*думна і раптам чуеш — птушкі пяюць.*

*Нашы валторны паўтараюць гэты выпадак з твору ў твор. Каб ты перажыў катарсіс. І пакуль ніхто ня ведае, як гэта ўсё растлумачыць, яно дзейнічае. Бо няма лепшага спосабу захапіць увагу, падрыхтаваць тваю істоту да апавяданьня, якое разгорнецца зусім хутка. Важна, што ты ўжо тут, ты ўжо ня толькі чакаеш, але ты наструнены ўвесь. І гэта добра. Гэта значыць, што гісторыя пачынаецца.*

# КАЙЛЮС І ЗЕЛБА. ЗІМОВАЯ КАЗКА

*Віталю і Алене*

Двое ахоўнікаў вайсковага стрэльбішча шарагоўцы Кайлюс і Зелба рабілі ранішні агляд тэрыторыі. За лесам яны сышлі ў лагчыну, адкуль сьцежка паміж сумётаў вяла да ракі.

– Ці ты глядзеў, колькі сёньня?.. – спытаўся Кайлюс.

– Мінус сорак, – адказаў Зелба.

Шарагоўцы моўчкі спусьціліся зь невысокага берагу на гладкую ледзяную паверхню.

– Мінус сорак бывае ў гэтых краях раз на сто гадоў, – сказаў Кайлюс.

– Угу, – адказаў Зелба. – Столькі ж было ў год нашага прызыву.

Пад нагамі ў жаўнераў паўставалі карціны прамерзлага наскрозь падвод-

нага сьвету: плыўкія водарасьці выгіналіся на некалькі крокаў, рыбіны замёрлі ў сваім увішным бегу, белыя бурбалкі нагадвалі россыпы зор.

– Юбілей, – стаў на месцы Зелба, – нам паложана падвойная пайка!

– Паложана-наложана, – мэханічна сказаў Кайлюс, не спыняючы хады.

Пад супрацьлеглым берагам, дзе ніцая вярба схілілася да ракі, зьмеціўшы нешта пад ільдом, Кайлюс раптам скочыў назад. Тое самае зрабіў і Зелба. Асьцярожна падаўшыся наперад, жаўнеры ўглядаліся ў ледзяную паверхню. Убачанае моцна ўражвала іх.

Пад ільдом сярод водарасьцяў застыла ў руху дзяўчына.

– Зусім не падобная да русалкі, – прашаптаў Зелба.

Тым часам Кайлюсу ад пераляку яшчэ не вярнулася мова. Ён абаўрэла разглядаў нечаканую відзежу, як нешта жаданае і, разам, забытае назаўжды.

Сапраўды, ані доўгіх косаў, ані жалезных грудзей у „русалкі“ не было.

Лёгкая сукенка, выгіны цела, усьмешка на вуснах, заплюшчаныя вочы – усё гэта змушала жаўнераў неадрыўна глядзець пад лёд і хвалявала сэрца.

– Прынцэса, – міжвольна прашаптаў Кайлюс.

– Ляля, – азваўся Зелба.

Такое „розначытаньне“ быццам ацьвярозіла іх, і яны, завядзёна пабраўшы вінтоўкі, рушылі звыклым маршрутам агляду – на супрацьлеглы бераг, з-за якога ўжо падымалася белае марознае сонца.

***

У пастарунку – невялікім будынку з сылікатнае цэглы – яны, як заўжды, варылі сабе ежу, чысьцілі амуніцыю і зброю, але пры тым не казалі ні слова ані пра „русалку“, ані пра свой юбілей. Яны маўчалі. Толькі бліжэй да поўдня першы прамовіў Зелба:

– Слухай, Кайлюс. Мы аглядаем тэрыторыю ўдвух дзеля таго, што можа спатрэбіцца прыкрыць адзін аднаго, альбо каб адзін, у разе патрэбы, пабег у пастарунак, а другі заставаўся на месцы здарэньня, праўда?

– Так напісана ў рэглямэнце, – пацьвердзіў Кайлюс.

– Толькі ж ніколі не было ў нас ніякіх здарэньняў. Аднойчы лось парваў агароджу, і ўсё. Але каб выявіць той прарыў, зусім ня трэба хадзіць разам.

– Можа і так, – недаверліва пагадзіўся Кайлюс.

– Мы вяртаемся з гэтых аглядаў га-

лодныя, як сабакі, – узвысіў свой голас Зелба. – І пасьля яшчэ колькі часу гатуем ежу.

– Ты прапануеш зьмяніць рэглямэнт? – пачаў здагадвацца Кайлюс.

– Мы нічога ня будзем зьмяняць. Проста я буду хадзіць на агляд тэрыторыі, а ты будзеш гатаваць ежу.

Кайлюс задумаўся. Гатаваць ежу яму ня вельмі падабалася. І потым, ён ня менш за Зелбу хацеў яшчэ паглядзець на Прынцэсу. Таму ўрэшце Кайлюс сказаў:

– Лепей мы будзем усё рабіць на зьмену. Сёньня ты гатуеш, а заўтра я.

На тым і пагадзіліся.

***

Ноч выдалася такой непраглядна-цёмнай, што Кайлюс упершыню адчуў трывогу, а Зелба страх. Трывога была такой моцнай, што калі Кайлюс устаў папіць, конаўка выпала зь ягоных рук і бразнула аб падлогу. Страх таксама быў такі моцны, што калі Зелба выйшаў да ветру, ён колькі ні мацаў рукамі густую цемень, так і не знайшоў прыбіральні, якая заўсёды была каля капцёркі.

Кайлюс і Зелба што было моцы рабілі

выгляд, што сьпяць, але ім ня спалася. І адна думка не выходзіла кожнаму з галавы: такое – упершыню.

Бліжэй да раніцы ім адлягло, і яны заснулі. Але і тут, у сьне, усё было ўпершыню, бо ніколі не здаралася, каб яны бачылі сны. Ад гэтага ім рабілася сорамна і кожны разумеў, што ніколі не раскажа свой сон другому.

Раніцай Зелба, здабыўшы сабе права першым пайсьці на агляд сам-адзін, рушыў ад пачатку пэрымэтру, але, як толькі яго ўжо нельга было ўбачыць з пастарунку, вобмельгам кінуўся да ракі.

Пад ніцаю вярбою ён на каленях рукамі рассоўваў рэдзенькі сьнег і леташняе лісьце зь ледзяное паверхні, пад якой зусім як жывая застыла Ляля. Уражаны зноў, і яшчэ больш, чым учора, Зелба гатовы быў глядзець на яе бясконца – на яе цела пад хвалямі лёгкай сукенкі, і хоць Ляля спала, здавалася, што ўсьміхаецца яна менавіта яму.

Але абавязак, нарэшце, пагнаў Зелбу ў пастарунак.

Калі пасьля абеду Кайлюс пайшоў нібыта па дровы, а насамрэч пабег да ракі, ледзяная паверхня пад вярбою была высьлізганая да бляску і нагадвала люстэрка. І Кайлюсу таксама падалося, што Прынцэса ў сьне ўсьміхаецца менавіта яму. Але тое, што перад

ім тут быў Зелба, прымусіла яго задумацца.

Не, Кайлюс ня ведаў пачуцьцяў зайздрасьці або ўласнасьці або здрады. Ён, як і Зелба, ня ведаў ніякіх пачуцьцяў, апроч натуральных чалавечых патрэбаў. За ўсю іхнюю супольную службу выпадак з „русалкай“ быў першы, што разварушыў у іх жаданьні, ніяк не зьвязаныя з рэглямэнтам ды сьціплым жаўнерскім бытам.

***

– Ну, што мы будзем як дзеці хадзіць да яе... – пачаў за вячэрай Кайлюс.

– Мне таксама здаецца, што ў гэтай гісторыі павінен быць нейкі працяг, – пагадзіўся Зелба. – Але што мы можам зрабіць?

Што яны могуць зрабіць? Пры патрэбе нешта зрабіць жаўнеры заўсёды думалі пра рыштунак, якога ў іх у прыбудове было шмат. Ня раз яны абмяркоўвалі: а што, калі ў дратах агароджы заблытаецца лось, – якім чынам прыцягнуць яго ў пастарунак. І хоць лось так ані разу і не патрапіўся ім на вочы, але за часы службы іхны плян – што зь ім рабіць – быў да дробязяў абмеркаваны. Згадаўшы пра гэта, Зелба сказаў:

– Давай яе дастанем!

– А ты думаеш, доктар Блюм ня сочыць за ёй гэтаксама, як за намі? – перасьцярог Кайлюс.

– Вядома, сочыць. Але наколькі нам дадзена вырашаць самім, нагэтулькі далёка мы і зойдзем. Там, дзе будзе ўжо нельга, доктар Блюм нас абавязкова спыніць. А пакуль... Пакуль мне вельмі хочацца Лялю.

– А мне Прынцэсу.

***

Мінус сорак трымалася і назаўтра, калі жаўнеры пастанавілі забраць „русалку“ з ракі. Пра агляд тэрыторыі нават і ня ўспомнілі.

Раніцай Кайлюс гатаваў пад’едак, а Зелба выцягваў з прыбудовы рыштунак – лябёдку, санкі, трасы з крукамі, ледаруб і бэнзапілу.

Кожны думаў пра тое, на колькі ім удасца прасунуцца ў пачатай справе, пакуль не аб’явіцца доктар Блюм – тады ўсё імі задуманае страціць сэнс. Але доктар Блюм не аб’яўляўся. Гэта натхняла іх. І досьвіткам, натхнёныя, яны рушылі да ракі.

Пакуль дайшлі з санкамі, лябёдкай ды іншым рыштункам, над супрацьлег-

лым берагам пачало ўзыходзіць незвычайнае мякка-ружовае сонца. Моцны мароз паддаваў жаўнерам імпэту.

„Русалка“ паказалася ім пад высьлізганым іхнымі каленямі і локцямі лёдам. Яна была ўсё такая ж лёгкая і жаданая. На хвіліну яны спыніліся ў здранцьвеньні, дакладна гэтак, як тады, упершыню.

І тут зараўла ў руках Зелбы бэнзапіла, зацёхкаў Кайлюсаў ледаруб.

На тле ружовага сонца, што фарбавала ў свой колер усё навакольле, двое мужчынаў у нягнуткіх вайсковых бушлатах улягалі на рачной паверхні, занятыя цяжкай працай. Сцэна цягнулася доўга, але, калі б некаму выпала назіраць яе, ён бы ня здолеў адвесьці вачэй, так гэта ўсё было дзіўна. Заставалася толькі ўявіць сабе музыку – велічную і сьцьвярджальную, з далёкай трывожнай нотай.

Яны не абмяркоўвалі, што й як рабіць, хоць рабілі кожны сваё і паміжсобку зладжана. Гэта цалкам зразумела, калі ведаеш, што яны ўсё робяць разам ужо сто гадоў.

Зелба абпілоўваў лёд вакол „русалкі“, а Кайлюс выдзёўбваў лункі з бакоў. Калі Зелба закончыў, Кайлюс яшчэ выбіваў чацьвертую лунку, і Зелба пачаў ладкаваць крукі ў гатовыя тры.

Ружовае сонца асьвятліла іх поўным сьвятлом, калі Зелба налёг на пэдаль лябёдкі, і прастакутная брыліна лёду з „русалкай“ пачала аддзяляцца ад паверхні ракі.

Яна павольна ўздымалася ўгару, і бракавала толькі анёлаў, якія б уструбілі ейны прыход. Але, можа, гэта й былі анёлы, а не сама рака, якая ўзвыла ўсім сваім целам, чапляючыся за тую брыліну з апошняе моцы.

Тут жаўнеры ўпершыню загаварылі паміж сабой.

– Ці чуеш музыку, Кайлюс? – спытаўся Зелба, і на вуснах ягоных зьявілася ўсьмешка.

Сьмяяўся і Кайлюс – хто яшчэ бачыў яго такім?

– Я чую, чую музыку!

Фантастычная сымфонія ружовага сонца захапіла ўсё навакольле – засьнежаныя лясы, палі, рэчку і нават чэзлую траву, што сям-там пракідалася з-пад сьнегу. Усё – трымцела! Гэтую музыку можна было ня толькі чуць і бачыць, але й адчуваць яе дотык і ўдыхаць яе разам з марозам.

***

Валаклі глыбу ў свой сылікатны дом вельмі цяжка. Забылі і пра ружовы сьвітанак, і пра музыку. Сьцяўшы зубы, цягнулі лядовы груз, ня ведаючы, навошта і дзеля чаго. Дакладней, Кайлюс цягнуў, а Зелба штурхаў. Колькі было вагі ў тым лёдзе, не задумляліся. Ня згадвалі і пра доктара Блюма, які кожны момант мог спыніць ходу іхнага прадпрыемства. Бо ведалі – штосьці яны робяць насуперак, бо ад пачатку ўсё гэта прыдумалі самі: давалачы брыліну зь „Ляляй“ да пастарунку. І толькі тут заўважылі, што на дарогу ім спатрэбіўся цэлы дзень.

У будынку яны ўсьцягнулі свой груз на стол. Ні слова ня мовячы, напалілі печку – узьнялі тэмпэратуру, а пад сталом зрабілі сьцёк для вады, якую вёдрамі выносілі за парог.

Доўга ці каротка тое цягнулася, але вада сышла, пакінуўшы на стале бяздухае цела „русалкі“, якая ад таго ня страціла ані сваёй прывабнасьці, ані ўсьмешкі.

Кайлюс дастаў з аптэчкі той на скрайні выпадак чып, далучыў яго да рукі Прынцэсы, і тая ажыла.

„Доктар Блюм, доктар Блюм, – кру-

цілася ў галаве ў Зелбы, – гэта ж доктараў чып... Што з намі будзе?“

Ну, пакуль нічога такога ня сталася, апроч таго, што бывае з чалавекам, калі яму да рукі далучаюць чып. Ляля і сапраўды ажыла, села, агледзелася і сказала (пытаньне, адказу на якое патрабаваў чып: як табе?):

– Мне добра... Няўжо скончыўся ўвесь гэты кашмар? Чаго гледзіце? У вас тут цёпла, і я хачу есьці.

– Э-э-э, – азваліся Кайлюс і Зелба, – у нас цэлая рандэля кашы з тушанінай!

– І што? – спыталася яна роблена-няшчасна, – можна папрасіць?

Ясна! Абодва жаўнеры кінуліся да рандэлі – калі ласка!

– А ты хто? – спыталіся пры тым у адзін голас.

Бачна было, што пытаньне яе азадачыла, але, шукаючы выйсьця, яна зірнула на бушлаты шарагоўцаў на вешаку і знайшла адказ:

– Я жанчына.

Гэтага было дастаткова, каб Кайлюс і Зелба здаволілі сваю цікаўнасьць, толькі б ведаць цяпер, што зь ёю, жанчынаю, рабіць?

Жаўнеры цешыліся зь ейнага харαства, пры тым разумеючы, што ўся сытуацыя знаходзіцца пад кантролем доктара Блюма. Але той пакуль што ня

ўмешваўся. Яны ўжо зрабілі нямала дзеяньняў насуперак ягоным настаўленьням. Ім нават хочацца рабіць нешта насуперак яшчэ, далей. Вось яна, іхная Ляля Прынцэса, перад імі. І што ж?

– А вы, відаць, салдацікі, у гэтым сэнсе заклапочаныя? – працягвала знаёмства „русалка“.

– Мы – Кайлюс і Зелба – ахоўнікі вайсковага стрэльбішча, – сказаў Кайлюс. – Мы заўсёды гатовыя, калі агароджу прарве лось... – і запнуўся.

– А як цябе завуць? – раптам знайшоўся Зелба.

***

– Маё імя Зоя.

– Зоя, – прамовіў Зелба.

– Зоя, – прамовіў Кайлюс.

Увогуле русалак у гэтым краі ніколі ня клікалі Зоямі. Называлі Сафійкамі або Зосямі. Але гэта было сто гадоў таму.

– Каторая цяпер гадзіна? – раптам спыталася Зоя.

– Самая поўнач, – адказаў Кайлюс.

– Стагодзьдзе нашага прызыву, – дадаў Зелба.

Зоя задумалася на хвілю, саскочыла на падлогу і стала марудна хадзіць па

пакоі, разглядаючы рэчы вакол. Асабліва яе ўвагу прыцягнулі бушлаты.

– Я памятаю свой апошні дзень нараджэньня, – сказала яна. – Да нас дадому прыйшлі сябры. Было так дзіўна! Усе чамусьці прынесьлі кавуны. Мы аб'ядаліся кавунамі. Потым гулялі па горадзе. Але штосьці павінна было адбыцца. Проста ў паветры вісела чаканьне нейкіх перамен. І было трывожна. Бо паўсюль мы сустракалі жаўнераў у гэткай вось форме. На тварах у іх не было ні радасьці, ні страху, ні жаданьняў... Амаль як у вас. Вы хочаце сказаць, што прамінула сто гадоў? Але ж я не зьмянілася.

– Вы добра захаваліся ў рачным лёдзе, – Зелба нават і не заўважыў, што перайшоў зь ёю на „вы“, бо сам сабе падумаў: гэта доктар Блюм цябе так захаваў.

– Кіно нейкае, – выгукнула Зоя. – Так не бывае. Вы – звычайныя жаўнеры ў звычайных бушлатах і каша ў вас звычайная.

– А як ты патрапіла пад лёд?

Зоя няўцямна паглядзела на Кайлюса, бо ягонае пытаньне гучала цалкам сур'ёзна – бязь ценю жарту.

– Ну, мы знайшлі цябе ў зьледзянелай рацэ, прыцягнулі сюды і ажывілі.

– Ажывілі... – паўтарыла Зоя. – Як?

– Мы маем адмысловы чып, – сказаў Кайлюс. – Праўда, ён прызначаны на тое, калі нешта здарыцца з адным з нас.

– Мы парушылі рэглямэнт, – з гонарам сказаў Зелба, але зараз сумеўся, – пайшлі супраць волі доктара Блюма.

– Доктар Блюм... – паўтарыла Зоя. – Сто гадоў... ажывілі... І гэта ня сон?

– Не, гэта ня сон, – сказаў Кайлюс.

– Здаецца, што я нешта згадваю, але я думала, што гэта проста сон, нейкі дурны кашмар...

***

Наша звычайнае жыцьцё складалася пераважна з мэдыйнай прасторы: тэлевізія, кіно, інтэрнэт, глянцавыя часопісы з каляровымі газэтамі, мабільнікі з тэлекамэрамі – мноства падзеяў і жарсьцяў, але колькі сярод іх было нашых уласных? Няшмат. Некаторыя нават цалкам занурыліся ў гэтую прастору і па-за ёю ня мелі нічога і нікога. Такія дзялы. Нават у газэтах сталі пісаць, што мы зашмат аддаем увагі ўсялякім мэдыйным зоркам ды іхнаму жыцьцю. Але нічога не зьмянялася. Абсалютна. Пакуль аднойчы раптам ня скончылася ўсё. Як усё адно нехта

адключыў ток. І ўсе нашы прылады радасьці згасьлі. Нават ня ведаю, што гэта было – ці то крызыс, ці то вайна, ці падзеньне мэтэарыта. Проста зьнікла сьвятло. Уяўляеце? Ты ўвесь час жывеш у мэдыйнай прасторы і думаеш, як шмат усяго на сьвеце ёсьць, а тут – бац! – і нічога няма. Толькі ты сам-адзін. Ну й вялікае мноства такіх самых, як ты.

Мы ўсе апынуліся ў нейкіх транзытных пунктах. Гэта было так брыдка! А якраз пачыналася зіма. Казалі, што гэта глябальнае пацяпленьне, але выйшла наадварот – абледзяненьне. Апошнім часам, здаецца, усё, што ні прадказвалі, выходзіла наадварот.

Ну вось. У нашым транзытным пункце было нацеплена аж занадта, амаль як у вас тут. А сам пункт быў звычайным шпіталём з калідорамі і палатамі, дзе сьмярдзела лекамі. Там я й пабачыла доктара Блюма. Гэта праўда ня сон?

– Не, ня сон, – у адзін голас прамовілі Кайлюс і Зелба.

– Ня сон... – паўтарыла Зоя і працягвала. – Але чамусьці доктара таго звалі Заяц. Доктар Заяц. Хоць усе неяк ведалі, што ён Блюм.

Мяне ўразіла, што доктар Заяц насамрэч быў мядзьведзем. У яго на плячах была драўляная мядзьведжая гала-

ва, невялікая такая, пафарбаваная чорным бляскам.

– Гэта Блюм, – разам выгукнулі Кайлюс і Зелба.

– Ну вось. Мядзьведжая галава, белы халат... І адна нага ў яго была касьцяная, не згіналася, таму ён хадзіў з палкай, кульгаючы. Ён ніколі нічога не казаў і быў вельмі суворы. Здаецца, ён і зьвяртаўся да іншых толькі гэтай сваёй кульбай – тыцкае ёй, штурхае або б'е. Гэта быў страшны сон...

– Доктар Блюм мутант, – сказаў Зелба. – Адзін зь першых мутантаў, ня вельмі ўдалы, але ўсё адно больш дасканалы, чым людзі.

***

Зоя не зьвяртала ўвагі на іхныя рэплікі, быццам баялася згубіць нітку сваіх прыгадак.

– Так ці йнакш, але доктар Заяц наводзіў на ўсіх вусьціш. Асабліва калі мы чулі ягоныя кульгавыя крокі, стукат ягонае кульбы ці ягонае сіпеньне: Экш! Экш!

Зоя задумалася. Не зважаючы на позьні час, яе слухачы не драмалі, а зь нецярплівасьцю чакалі працягу.

– Аднойчы, – пачала яна асьцярож-

на, быццам зьбіралася дакрануцца да агню, – аднойчы я ўбачыла, як доктар Заяц гнаў сваёй кульбаю па падлозе ў калідоры... Гэта быў кавалак чалавека, сплюшчаны, як барэльеф. Толькі галава і грудзі. Барэльеф мужчыны, маладога, з бародкай. Такіх паказвалі ў фільмах пра рэвалюцыю. Адразу мне падалося, што гэта кавалак нейкага каберца ці лінолюму. Але ён стагнаў. А доктар прыкрыкваў: Экш! Экш!.. Слухайце, чаму ў вас так халодна?

– Зараз, – ускочыў са свайго ўслончыка Зелба, – пашукаем чаго-небудзь надзець.

– Зараз, – падняўся Кайлюс, – запарым гарбаты.

Зелба адчыніў падсобку. Кайлюс адправіўся на двор па дровы, бо ў печцы дагарэла апошняе вугольле.

Зелба знайшоў у падсобцы цёплыя спартовыя нагавіцы і такую самую кашулю, а таксама чысты бушлат. Кайлюс наладаваў дровамі пліту, запаліў агонь і паставіў кіпяціць ваду.

Жаўнеры корпаліся кожны пры сваім занятку, адвярнуўшыся ад жанчыны.

Зоя тым часам хуценька нацягнула на сябе цёплыя рэчы і выглядала цяпер адной зь іх, цяпер ужо траіх.

Дасьпела гарбата, і ўсе трое, пасеў-

шы на ложках, былі гатовыя да працягу размовы.

***

– У той час шмат казалі пра кланаваньне, перасадкі ворганаў, пра разумных робатаў... Але я ня надта за гэтым сачыла, – прамовіла Зоя, грэючы рукі аб кубак з гарбатай. – Напэўна, рана ці позна ўсё гэта мусіла перавярнуць увесь наш сьвет. Калі любую частку чалавека можна замяніць на іншую, дык гэта ўжо нейкае вечнае жыцьцё атрымліваецца.

– Так і ёсьць, – пагадзіліся Кайлюс і Зелба.

Зоя ўпершыню паглядзела на іх уважліва, быццам вывучала.

– Выходзіць, што і вы – робаты?

– Мы не мутанты, – уздыхнуў Зелба. – Мы людзі, хоць і сапраўды шмат разоў пералепленыя.

– Але мы ня трапілі ў катэгорыю дасканалых – на мутацыю, як, напрыклад, доктар Блюм, – удакладніў Кайлюс.

– Цікава, у якую катэгорыю патрапіла я? – разважала ўголас Зоя. – Напэўна, у нейкі „адсеў“ – каму вечнасьць не пагражае.

– Напэўна, – пагадзіліся Кайлюс і Зелба.

Адказаць нешта дакладнае гэтыя ці то дзецюкі, ці то стогадовыя дзяды не маглі, бо нічога ня памяталі дый толкам ня ведалі. Колькі часу сплыло пасьля іхнага прызыву на вайсковую службу, а што было да таго – даўно заменена ў іхнай трансплянтаванай памяці. Адзінае, што цяпер у іх раптам абудзілася цікавасьць да таго сьвету, зь якога зьявілася Зоя. Калі ўвесь той сьвет такі, як яна, значыць, і сапраўды цікава, якім чынам ён скончыўся. А можа й ня скончыўся? Пакуль ёсьць Зоя.

– Тады шмат казалі пра гендэрную дыскрымінацыю, – працягвала яна. – Але ніхто з гэтым не лічыўся, бо жанчын стала ў некалькі разоў больш за мужчын.

– Мы гэтага ня ведаем, – разам прамовілі Кайлюс і Зелба.

– А тых, каго „адсеялі“, нашы гуманныя кіраўнікі, каб не забіваць, сталі замарожваць, – зрабіла дапушчэньне Зоя. – І каб ня траціць сродкі, марозілі іх у рэках, бо ўсё адно настала глябальнае абледзяненьне. Так?

– Магчыма, – сказаў Кайлюс.

– Ты разумная, – заўважыў Зелба. – Толькі мы ніколі ў нашай рэчцы нікога, апроч цябе, не знаходзілі.

***

За сьляпым акенкам пастарунку пачынала сьвітаць. І жаўнеры зазьбіраліся на агляд тэрыторыі. Цяпер ім і ў галаву не прыходзіла, што на пэрымэтар выправіцца нехта адзін, а другі будзе гатаваць сьняданак.

Папрасілася разам зь імі і Зоя – каб паглядзець месца, дзе яны яе знайшлі. На тое ёй выдалі цёплыя ватныя нагавіцы і валёнкі. Яна апраналася і не пераставала зьдзіўляцца іхнаму ўбогаму быту. Маўляў, куды падзяваліся ўсе тыя кампутары, бытавыя прылады і сродкі сувязі – ды наогул усё, чым было напоўненае жыцьцё сто гадоў назад? Тады многія нават уявіць сабе не маглі існаваньня без тэлевізара, газавай пліты або цёплага клязэту. Няўжо з дасягненьнем вечнага жыцьця ўсё гэта страчвае сэнс? Утульнасьць і зручнасьць быту?

Жаўнеры, відавочна, не разумелі, пра што яна кажа, але згаджаліся зь ёю аднаслоўнымі адказамі „магчыма“, „відаць“, „напэўна“. Ім тое было ня толькі незразумела, але й нецікава.

Мароз у той дзень зьменшыўся напалову – да мінус дваццаці.

Калі ўсе трое спускаліся ў лагчыну, Зоя спытала, якім чынам доктар Блюм

сочыць за ахоўнікамі стрэльбішча? Як ён даведваецца, што нехта зь іх захварэў ці што камусьці трэба зрабіць трансплянтацыю?

Усё адбываецца само сабою, – адказалі яны. Уся інфармацыя – у паветры. І лекаваньне і трансплянтацыя – усё робіцца праз паветра. Ім нават і думаць пра гэта ня трэба. Іхная справа – ахоўваць тэрыторыю.

„Ага! Вось куды падзявалася ўся кібэрнэтыка – у паветра! – здагадалася Зоя. – Але ж вы самі зазірнуць у паветра ня можаце? Што-небудзь там падгледзець, падправіць, як доктар Блюм?“

„Не, – адказалі яны, – мы ў гэтым нічога не разумеем, ды нам і ня трэба. Мы простыя людзі, а гэта справа дасканалых мутантаў“.

Калі перад самай ракой яны спыніліся, Зоя казала пра свае пачуцьці – як гэта дзіўна пастаяць над уласнай магілай! І не над той, у якую ты пойдзеш, а над той, зь якое прыйшоў...

Але ўчорашняе прастакутнае яміны пад ніцай вярбой не было.

***

Прыцярушаны сьнегам лёд уяўляў сабою роўнядзь, зусім непразрыстую,

шэрую і каламутную. Нават водарасьцяў у замерзлай рацэ разгледзець было нельга.

Кайлюс пачаў мітусьліва аглядацца, думаючы, што яміна можа быць у іншым месцы, крокаў дзесяць сюды-туды. А Зелба выказаў дапушчэньне, што рэзкі перапад тэмпэратуры мог згладзіць яміну ды зрабіць каламутнай падлёдную відзежу.

Зою адсутнасьць „магілы“ зусім не зьдзівіла. Яе зьдзівіла іншае: рачны краявід раптам падаўся ёй знаёмым. Ён нагадаў ёй мясьціну каля іхнага лецішча пад горадам, дзе яна гадавалася. Праўда, ужо шмат гадоў на тым лецішчы яна не была і ніколі не бывала там узімку, таму ўражаньне магло быць памылковым. Хаця…

На зваротным шляху яна спыталася, ці адбываюцца на стрэльбішчы вучэньні? Напэўна, калісьці адбываліся. Але з часоў свайго прызыву Кайлюс і Зелба ня могуць прыгадаць ані стрэлаў, ані каб некага тут муштравалі.

Ясна, – зрабіла выснову Зоя. – Мабыць, і войска ніякага ўжо сто гадоў няма. Мабыць, – пагадзіліся жаўнеры. Але іхная задача – не страляць, а сачыць за парадкам. Усё, што ім трэба для службы і быту, дастаўляе сюды вялікая вайсковая машына.

Значыць, і на танцы вы нікуды ня ходзіце, і зь дзяўчатамі не сябруеце, – працягвала Зоя. – Зразумела. Хіба можа быць каханьне, калі жывеш вечна? Дакладней, хіба можа быць каханьне, калі няма сьмерці.

Але ж і жыцьцём вашую несьмяротнасьць не назавеш. Чалавечым жыцьцём. Няўжо, каб стаць неўміручым, трэба ператварыцца ў целюка, – падумала яна, але, натуральна, гэтага не сказала. Яна сказала: Хлопцы, а ці не задацца б вам думкай, чаму вы нічога такога ня ведаеце і вам нічога такога ня хочацца? Вы ж ужо парушылі рэглямэнт, калі дасталі мяне з ракі, калі ажывілі, калі перасталі хадзіць на агляды і цэлую ноч, замест сну, бавілі час за гутаркай. Так? І нябёсы праз гэта на зямлю не зваліліся. Значыць, можна й яшчэ нешта зрабіць такое, свавольнае.

– У прынцыпе, можна, – сказаў Кайлюс.

– Чаму б і не, – пагадзіўся Зелба. – Хоць мы зможам нешта рабіць толькі да той мяжы, да якой дазволіць нам доктар Блюм. Але гэта сапраўды цікава. Пабачым.

***

За сьняданкам Зоя пачала прыдумляць свой плян.

– Вось глядзіце. Я ўжо не зьдзіўляюся таму, што мінула сто гадоў. Бо нічога істотнага не зьмянілася. А гэта значыць, што сто гадоў, што тысяча, што адзін год – няважна. І чаго тады вартая ваша несьмяротнасьць? Таго, каб нікуды не імкнуцца, нічога не жадаць, ні пра што ня марыць? Каб жыць, усё адно як памёршы? Такая несьмяротнасьць папраўдзе нагадвае сьмерць, якая ўжо надышла. Вы існуяце не ў нармальным сьвеце, а ў нейкім прыдуманым „тым сьвеце“. Так?

– Так, – сказаў Зелба. – І што нам цяпер, адмовіцца ад вечнага жыцьця, якое, па-твойму, насамрэч – вечная сьмерць?

– Вядома! Бо імкнуцца, жадаць, марыць – вось што такое жыць. Рабіць нейкія карысныя штукі, а не хадзіць, як завядзёны, вакол гэтага дурацкага стрэльбішча, купляючы сабе такім чынам вечную магчымасьць хадзіць вакол стрэльбішча. Наадварот, увесь сэнс у тым, каб пасьпець адчуць каштоўнасьць жыцьця, каб сьпяшацца, рызыкаваць, рабіць нестандартныя ўчынкі. Сьмерць

у тысячу разоў важнейшая за несьмяротнасьць.

– Ты прапануеш нам забіць сябе? – спытаўся Зелба.

– Не.

– Яна хоча, каб мы забілі доктара Блюма і такім чынам зламалі ўсю схему, – азваўся Кайлюс. – Але доктар Блюм несьмяротны.

– Ды не! Я хачу сказаць, што вы са сваім стрэльбішчам існуяце ў іншым вымярэньні. Сёньня на рэчцы не было ўчорашняй яміны, зь якой вы мяне дасталі, праўда? І краявід падаўся мне знаёмым. Калі ўскараскацца на супрацьлеглы бераг, там будзе поле, так?

– Так.

– А за полем – бярэзьнік. Так?

– Так.

– Маладыя бярозавыя пасадкі. Так?

– Так.

– І што, усе сто гадоў там маладыя пасадкі?

– Так.

– А ў бярэзьніку пачынаецца дарога.

– Гэтага мы ня ведаем, бо ніколі туды не даходзілі. Поле ўжо за межамі нашай тэрыторыі.

– Ну правільна! І тая дарога вядзе да нашага лецішча.

– Ты прапануеш, каб мы туды пайшлі?

– Чаму б і не? Праўда, гэты паход будзе азначаць канец вашае неўміручасьці.

***

Жаўнеры задумаліся, і Зоя ня стала перабіваць іхнага задуменьня. Яна разважала пра сваё.

Як жа шмат высілкаў людзі патрацілі на тое, каб дасягнуць вечнага жыцьця. Ведалі б яны, якая гэта нецікавая штука – несьмяротнасьць!

– І што мы будзем там, на тваім лецішчы, рабіць? – раптам спытаўся Кайлюс.

– Ну, хоць бы запарым кавы, агледзімся і пойдзем на аўтобус. Сядзем і праз паўгадзіны будзем у горадзе.

– Самаволка, значыць, – прыгадаў забытае слова Кайлюс.

– Пяць сутак губы, – падыграў яму Зелба.

– Але ня факт, што ўсё так і ёсьць насамрэч, як ты кажаш, – засумняваўся Кайлюс, – дарога ў бярэзьніку, лецішча, аўтобус, горад. Нам і праўда нічога ня хочацца, бо ўсе жаданьні панікл за гэтыя сто гадоў пасьля прызыву. Калі ты ўзбудзіла ў нас цікавасьць да сябе, дык... Нічога добрага я ў гэтым ня бачу.

– Спроба не хвароба, – сказаў Зелба. – Толькі я таксама ня ведаю, што нам рабіць у тым горадзе. Ты там жывеш і цябе туды цягне. А мы з нашай шмат разоў пералепленай сьвядомасьцю таксама цягнемся туды, дзе прывыклі. Гэта значыць, сюды.

– Тады я пайду адна!

– Зь іншага боку, – сказаў Кайлюс, – ня факт, што мы можам адпусьціць цябе. У нашым рэглямэнце сказана толькі пра затрымку жывёлаў. Але ж і чалавек у нейкім сэнсе жывёла...

– Хадзем усе разам, – пастанавіў Зелба. – Прынамсі, да бярэзьніку.

***

Калі за высокім супрацьлеглым берагам ракі яны ступілі на засьнежанае поле, пачало шарэць. Нечакана Зоя адчула, што не пазнае гэтых мясьцін. Але жаўнерам яна нічога не сказала. Наперадзе сапраўды бялеўся бярэзьнік. Толькі быў ён дзесьці вельмі далёка, бо вельмі вялікім аказалася поле.

Яны ішлі моўчкі, гатовыя да любога павароту падзеяў. Жаўнерам зноў падабалася іхнае свавольства, але ні на хвілю не забываліся яны і пра доктара Блюма.

Зоі патроху рабілася страшнавата — яна ўжо зразумела, што гэта ня той краявід. Поле напраўду было агромністае, а бярэзьнік, разам зь іхным набліжэньнем да яго, ператвараўся з маладых пасадак у векавечны гай. Імкліва цямнела. Да таго ж пасыпаў сьнег і ўзьняўся вецер.

Няўжо гэта тыя, знаёмыя зь дзяцінства мясьціны, толькі — праз сто гадоў? Няўжо ўвесь гэты час яна насамрэч праляжала ў скутай ільдом рацэ? Няўжо гэта ўсё ня вусьцішны сон, а рэчаіснасьць? І ня будзе ніякай дарогі, ніякага лецішча, ніякага гораду?

Ніякай дарогі ў бярэзьніку не было.

Велічэзныя дрэвы матлялі даўгімі кудламі сваіх шатаў, атрасаючы зь іх ледзяшы, якія шклянымі пацеркамі рассыпаліся па сьнежным шарпаку. Сьцямнела зусім.

Зоя калацілася, ня могучы справіцца са сваім страхам. Жаўнеры пераступалі з нагі на нагу. Што ім станецца, калі ў іх наперадзе вечнае жыцьцё.

***

Так ці йнакш, нешта прыдумаць мусіла яна. А яна не магла, ня ведала

што. І яны гэта бачылі. Таму ўрэшце сказаў Кайлюс:

– Нам трэба вяртацца. Будзем лічыць, што эксперымэнт ня ўдаўся. Ня ведаю, што нам будзе, калі адпусьцім цябе, але ў рэглямэнце пра гэта нічога не сказана. Таму ідзі на сваё лецішча ды едзь у свой горад. А мы пойдзем у свой пастарунак.

Гледзячы на Зою, можна было адчуць, што нічога горшага для чалавека гэты бессардэчны робат прыдумаць і ня мог. Зоін адчай гатовы быў дасягнуць найвышэйшага роўню. У такіх выпадках звычайна жаночая інтуіцыя раптоўна знаходзіць выйсьце.

Кайлюс ужо памкнуўся быў рушыць назад, але яго прыпыніў Зелба:

– Чакай. Але куды яна пойдзе? Ніякай дарогі няма!

– Можна ісьці паміж дрэваў, – сказаў Кайлюс. – Я падумаў, што яшчэ невядома, калі мы больш парушым рэглямэнт – калі адпусьцім яе, ці калі затрымаем.

– Трэба, каб яна сама вырашыла, што ёй рабіць, – сказаў Зелба. – Нам дык заўсёды доктар Блюм падкажа, а ёй... Можа быць, спытацца ў доктара Блюма? Ён усё чуе.

Гэтага іхнага дыялёгу было дастат-

кова, каб Зоя канчаткова дала рады сваім пачуцьцям.

– Ня трэба, – сказала яна. – Я гэта ўсё прыдумала, я й буду вырашаць. Мы чаго хацелі? Жыць, рухацца, шукаць. Ну й няхай цяпер цёмна. Ну й нічога, што бярозы старыя. Але самае апошняе глупства – вяртацца ў ваш пастарунак і працягваць хадзіць на агляды. Трэба ісьці наперад, а не кругамі. І нічога не баяцца. Я магла б пайсьці далей адна, але я жанчына, і мне страшна. Вы мусіце ісьці са мною.

Апошнія словы прагучалі як загад.

– І куды мы пойдзем?

– Пойдзем ускрайкам. Не бывае лесу безь сьцяжынаў.

***

Досыць хутка ім сапраўды адкрылася сьнежная палоска з прыцярушанымі сьлядамі чаравікаў. Яна вяла ў бярэзьнік і габлялася паміж дрэваў.

Ішлі павольна, бо ня ведалі, нават не ўяўлялі сабе, што іх чакае наперадзе.

Цяпер ужо і гай выглядаў не такім страшным, як перад тым. Белыя ствалы дрэваў, белы сьнег на зямлі быц-

цам наўмысна асьвятлялі іхны шлях уначы.

На душы ў Зоі зрабілася ня так маркотна, бо ўсё ж такі быў нейкі рух, і яна была не адна. Можна было далей выпытваць пра што-небудзь у гэтых „целюкоў“.

– Цікава, а што праз сто гадоў адбылося з асваеньнем космасу? – кідала яна пытаньне ў паветра.

– Яго асвоілі, – адказалі жаўнеры.

– А з тэлебачаньнем, з інтэрнэтам, з шоў-бізам ды мас-культам?

– Ня ведаем, нічога такога няма.

– А дзе жыве доктар Блюм?

– Мы ня ведаем.

– Мне здаецца, што ён жыве ў вас, у нас у галаве. У кожным чалавеку жыве доктар Заяц. З драўлянай мядзьведжай галавой пад чорным бляскам, з кавенькай і крыкам: Экш! Экш!

– Мы ня ведаем.

– Магчыма, я пераблытала краявіды, але нешта мне падказвае, што ўсё адно мы выйдзем да нармальнага сьвету.

– Чаму ты так думаеш?

– Бо цяпер вы жывяце ў маім жыцьці, а ня я ў вашым.

– Мы страцілі несьмяротнасьць?

– Думаю, так. Што вы цяпер адчуваеце?

– Ты нам падабаесься.

Трэба сказаць, што гэта яны адчувалі ад самай першай сустрэчы зь ёю. Але калі ты жывеш вечна, твае пачуцьці ня маюць ані значэньня, ані сэнсу. Цяпер жа, у гэтым бярозавым гаі, калі жаўнеры пазбавіліся несьмяротнасьці, іхныя сэрцы заходзіліся ад прысутнасьці Зоі побач зь імі.

***

Тым часам бярэзьнік скончыўся, і сьцяжына вывела іх на іншае поле, што дыбілася высокім засьнежаным узгоркам. Што там, за ім? Пытаньне рытарычнае. Рэч у тым, што чаканьне чагосьці невядомага стамляе, як і ўсякае чаканьне, і ператвараецца ў манатоннае нішто. Гэтае нішто паступова апанавала Зою, дадаліся бяссонныя ночы і нясьпешная разьмераная хада. Зоя нібы заснула, ідучы. У галаве круціліся ўсялякія відзежы, што прапаноўвалі свае працягі гэтай гісторыі.

Быццам голас цыркавога канфэрансье крычаў у залю: Што? Што далей будзе з нашымі героямі? Пра гэта напісана мноства кніг! Безумоўна, нас чакаюць новыя, яшчэ больш захапляльныя прыгоды! Нашым героям не ад-

нойчы давядзецца абхітрыць злога доктара Блюма, пераадолець шматлікія самыя неверагодныя перашкоды, пабываць на кані і пад канём, перш чым адмысловая камісія вярхоўных камісараў прызнае іх траіх годнымі найвышэйшай катэгорыі дасканаласьці, і яны нарэшце стануць мутантамі! Кайлюс атрымае замест ног самаходнае шасі, Зелба – новую драўляную галаву і будзе падобны да насарога, а Зоі дастанецца русалчын хвост! Аркестра – „туш“!

Усё навакольле ашчэрылася залівістым сьмехам мноства чалавечых ратоў. Зьвінелі трубы і літаўры, а канфэрансье працягваў свой узьнёслы маналёг. Фокус-покус! Цяпер кожны зь іх паселіцца ў кімсьці з нас і будзе найвялікшаю засьцярогаю ад сваволства. Доктар Кайлюс сочыць за мной, – шапну я табе на вуха. А за мной, – адкажаш ты, – доктар Зелба! Гэта што, – скажа трэці з нас, – за мной пільнуе сама доктар Зоя!

Некалі так будзе абавязкова! І нам таксама, каб пазбавіцца ад сваіх дактароў, трэба будзе разьвітацца з думкамі пра несьмяротнасьць, – гэта ўжо не канфэрансье, бо словы прамоўленыя голасам Зоі ў ейнай жа галаве. Яна машынальна перастаўляе ногі і пры тым дрэм-

ле, і адна відзежа ў ейным сьне зьмяняецца на іншую.

Яны ідуць між маленькіх хвоек, і цяпер ужо ня Зоі, а жаўнерам краявід падаецца знаёмым. І нічога дзіўнага, бо яны выходзяць да свайго пастарунку на стрэльбішчы.

Каля будынку зь белага сылікату стаіць вялізная вайсковая машына.

У пастарунку гарыць сьвятло, і падарожнікі зазіраюць у шыбу. Пасярод пакою яны бачаць маленькага чалавека ў белым халаце з чорнаю мядзьведжаю галавою. Ён стукае палкай у падлогу і, гледзячы проста на іх, крычыць: Экш! Экш!

– Цяпер дакладна ня стаць нам мутантамі, – расчаравана кажа Кайлюс.

– А мы так спадзяваліся, што не цяпер, дык гадкоў праз сто... – азываецца Зелба.

І толькі Зоя маўчыць. Жаночая інтуіцыя падказвае ёй, што гэта ня так, што папраўдзе ўсё наадварот, што яны на верным шляху. Бо, праўду кажучы, хто ж ня хоча жыць вечна?

Толькі ня ўсім дадзена. Азірнуўшыся, Кайлюс і Зелба нікога побач з сабой ня бачаць. І яны ў адзін голас крычаць:

– Зоя!

***

Крык абудзіў яе акурат у той момант, калі яна гатовая была ўпасьці на сьнег. Небясьпечна спаць ідучы.

Сьцяжына, што вывела іх да ўздыбленага поля, павярнула ўлева і стала спускацца ў нізіну, парослую хмызьняком. Неўзабаве перад імі паўстала вялікая пустка, на ўскрайку якой стаяў будынак з сылікатнае цэглы.

– Кола замкнулася, – сказала Зоя.

– Але гэта ня наш пастарунак, – насьцярожыліся жаўнеры.

Не змаўляючыся, усе трое рушылі да будынку, у вакенцы якога гарэла сьвятло. Спачатку яны зазірнулі ў шыбу.

У звычайным вайсковым пакоі двое жаўнераў сядзелі за сталом і елі кашу. Зоя пазнала ў іх Кайлюса і Зелбу, дакладна такіх самых, якія стаялі поруч зь ёю.

Напэўна, самі Кайлюс і Зелба нічога такога не падумалі і моўчкі чакалі загаду.

– Ну што, – спыталася Зоя. – Хадзем знаёміцца?

Яна пагрукала ў дзьверы, і праз хвіліну ёй адчыніў той, які быў Кайлюс.

– Здароўцека, – павіталася Зоя. – Мы да вас на агеньчык.

Той, які Кайлюс, моўчкі адступіў убок, даючы дарогу гасьцям.

– Ну вось, – пачала знаёмства Зоя. – Мяне завуць Зоя, гэта мае сябры. А вас як завуць?

– Кайлюс, – адказаў той, які Кайлюс.

– Зелба, – адказаў той, які Зелба.

Зоіны кумпаны пераглянуліся:

– Нас таксама завуць так.

– Нічога дзіўнага, – сказаў той, які Кайлюс. – Мы ахоўваем вайсковае стрэльбішча і кожны дзень абходзім яго тэрыторыю, каб раптам у агароджу ня ўбіўся лось.

– І мы таксама.

– Нічога дзіўнага, – сказаў той, які Зелба. – Напэўна, вас таксама даглядае і захоўвае сваім клопатам доктар Блюм.

– Доктар Блюм, – пацьвердзілі тыя, якія нашы.

– Нічога дзіўнага, – разам сказалі тыя, якія тыя. – Год таму, абходзячы тэрыторыю, мы пабачылі ў рацэ дзяўчыну. Мы ажывілі яе. Яе таксама клікалі Зоя і яна ня ведала, што прамінула сто гадоў.

Не пасьпела Зоя звыкнуцца зь дзіўным множаньнем Кайлюсаў і Зелбаў, як новы сюрпрыз зусім зьбіў яе з тропу.

– І... і што вы зрабілі з той Зояй?

– Нічога, – адказалі яны. – Вось ты стаіш перад намі жывая і здаровая.

– Але мінуў цэлы год!

– Нічога дзіўнага, – сказалі тыя. – Год туды, год сюды. А куды вы ідзяце?

– Мы шукаем выйсьце з таго сьвету, – сказала Зоя.

– Мы ўцякаем ад вечнага жыцьця, – сказаў Кайлюс.

– Мы пазбавіліся несьмяротнасьці, – сказаў Зелба.

– Цікава, – прамовілі гаспадары. – І вы мяркуеце, што такое выйсьце ёсьць?

– Цяпер я засумнявалася, – адказала Зоя. – Калі за вашым стрэльбішчам будзе чарговае стрэльбішча і там будуць новыя Кайлюс і Зелба, а далей – зноў тое самае...

– Магчыма, усё так і будзе, – сказалі гаспадары.

– Нецікава, – прамовілі нашы.

– Але ці можна ў вас пераначыць? – папрасілася Зоя. – Цяпер позьні час і мароз...

– Чаму ж не, – адказалі яны. – У нас знойдуцца тры раскладанкі, а месца хоць і няшмат, але хопіць на ўсіх.

– Пераначуем, болей пачуем, – падсумавала гаворку Зоя.

***

Раніцою, пасьнедаўшы, яны выправіліся ў дарогу ўпяцёх: двое Кайлюсаў, двое Зелбаў і Зоя.

Мароз ізноў памякчэў напалову – да дзесяці градусаў, а дзесяць пасьля сарака ўспрымаюцца амаль як адліга.

Іхная сьцяжына зноў прамінула ўзьлесак і зноў выходзіла на поле, зноў караскалася на высокі ўзгорак і спускалася ў нізіну.

Можа быць, гэтаму шляху няма канца, і ім спатрэбіцца яшчэ сто гадоў, каб выйсьці нарэшце з таго сьвету? Але ста гадоў у іх, сьмяротных, цяпер ужо не было.

Можа дарогаю іхны лік будзе павялічвацца і вырасьце шматкроць, калі ўвесь сьвет і сапраўды ператварыўся ў суцэльныя стрэльбішчы? Можа быць... толькі Зоя між іх будзе такая адна?

Пра гэта яна і думала, ідучы, без усякага гумору.

Каб спынілася гэтая аднастайная бясконцасьць, трэба зусім няшмат. Трэба ўсяго толькі аднойчы выйсьці куды-небудзь не на стрэльбішча і ўсяго толькі сустрэць там кагосьці ня Кайлюса і ня Зелбу.

Але наступнымі днямі гісторыя з дакладнасьцю паўтарылася яшчэ некалькі

разоў. І яшчэ наступнымі – таксама. І яшчэ, і яшчэ...

Вядома, рэч была ня ў Зоі – яна ведала, чаго ім трэба. Рэч была ў Кайлюсах і Зелбах, якія гэтага ня ведалі, і якіх былі ўжо дзясяткі, а гатовыя былі стацца і сотні. Усё паўтаралася гэтаксама, як некалі паўтараліся іхныя штодзённыя агляды тэрыторыі. Але дзе ж канец гэтай бясконцай несьмяротнай вечнасьці?

***

Аднойчы Зою напаткала надзея. Яна раптам заўважыла, што ейныя першыя Кайлюс і Зелба – зусім не такія, як апошнія. Першыя абрасьлі барадамі, валасы выбіваліся ў іх з-пад шапак, бушлаты знасіліся, выгляд быў зморany, але вочы сьвяціліся так, як яны сьвецяцца ў чалавека, які сам кіруе сваім лёсам. Яны ўжо амаль нічым не нагадвалі чарговых Кайлюса і Зелбу з чарговага стрэльбішча. Можа быць, яны самі зрабіліся тымі іншымі, каго трэба было сустрэць?

Нейкім днём Зоіна войска прыблукала на самае першае стрэльбішча – адкуль усё й пачалося. Усё тут было закінутае і занядбанае, зусім ня так, як

на стрэльбішчах апошніх дзён. Усё было па-іншаму. Прырода наступала на пабудовы, агароджа пэрымэтру была пашкоджаная шмат дзе. А галоўнае – тут усе ўпершыню заўважылі, што надышла вясна.

Сапраўды, на дрэвах ужо паказалася лістота, зазелянела трава, а проста на самым стрэльбішчы пасьвіўся вялікі статак ласёў.

– А што доктар Блюм, – спыталася Зоя ў Кайлюса, – ён даўно не выходзіў на сувязь?

– З таго моманту, як зьявілася ты.

– Можа быць, нешта зламалася ў паветры? – спыталася Зоя ў Зелбы.

– У паветры няма марозу. Напэўна, інфармацыя не перадаецца, калі вясна.

***

Назаўтра на колішнім стрэльбішчы быў зладжаны вялікі пікнік. Жаўнеры паскідалі бушлаты і хадзілі пад цёплым вясновым сонцам хто ў чым – хто ў майцы, а хто й голы да пояса. Усе ўсьміхаліся, насьвіствалі і напяёўвалі. І ад гэтага здавалася, што сонца прыграе мацней.

У разгары ўсеагульнае бестурботнасьці Кайлюс і Зелба спахапіліся, што

няма Зоі. Трэба зірнуць на рацэ – здагадаліся яны і кінуліся да ніцае вярбы.

Рака адтала і цяпер імкліва бегла пад стромым берагам.

Зоя стаяла на супрацьлеглым баку і адкасвала калашыны штаноў – яна перайшла рэчку ўброд.

– Што ты там робіш, Зоя? – крыкнуў Кайлюс.

– Гляджу, – крыкнула яна ў адказ. – Тут усё зьмянілася. Поле зусім маленькае і бярэзьнік зусім малады. Ён так блізка, што я бачу ў ім дарогу.

– Ты зусім-зусім ня можаш жыць бяз кавы? – крыкнуў Зелба.

– Ты зусім-зусім ня можаш жыць без тэлевізара? – крыкнуў Кайлюс.

– Я магу жыць бяз кавы і тэлевізара, – крычала вясёлая Зоя, махаючы ім рукой. – Магу, бо гэта ня будзе вечна...

Апошнія словы даляцелі да іх, калі Зоі ўжо не было відаць.

*Здаецца, усё сказана, але гісторыя не завершаная. Ты адчуў гэта? Нават калі не, ты зразумеў, што ніхто ня пляскае, а пляскаць першым ты не прывык. Услухайся. Недзе на самым далёкім тле засталася гучаць ёніка. Ціхаціха. Не таму, што яе забылі выключыць. Ясная рэч, яна ўжо не нагадвае табе хайтуры. Гэта мы праехалі. У ёнікі больш складанае заданьне – захаваць цябе ў мэдытатыўным стане, перакінуць масток нават не да наступнай гісторыі, а далей, туды, дзе атрымаюць разьвіцьцё твае самыя нечаканыя думкі. Дакладней, нават не твае, а думкі складальніка музыкі, якія ты павінен успрыняць як свае – менавіта для гэтага яны і павінны быць нечаканымі.*

*І вось да ёнікі далучаецца хаос аркестровай ямы – не нахабны і крыклівы, а тактоўны. І раптам ты разумееш, што гэта зусім не хаос. Віялянчэль аб-*

*рысоўвае мэлёдыю, быццам сама сабе засумаваўшы. Пачакай. У табе гаворыць ня колішні малады гіпі, а чытач глямурных часопісаў. Лепей аддай даніну таму, як заварожліва гучаць хаос ямы і гэтая віялянчэль. Ведаеш, што зараз будзе? Тое, чаго ты больш за ўсё ня любіш у музыцы. Калі сьпяваюць опэрныя цёткі. Мы з табой у гэтым падобныя!*

*Да пэўнага ўзросту, натуральна. Памятаеш, я казаў пра сакральны зьмест? І раптам зразумеў, што няма ў музыцы нічога больш сакральнага, чым голас опэрных цётак. Ну вось нешта, незалежнае ад твайго розуму, робіць іх сырэнамі. Добра, сырэнамі – там чыста фізычнае ўзьдзеяньне. А як толькі яны трапляюць у клясычную традыцыю, яны быццам трапляюць на службу Богу, робяцца ягонымі вястункамі. Патрыярхі гавораць словы, а цёткі цаляюць проста ў сэрца. Гэта наймацнейшая зброя.*

*Чуеш, наша ўжо засьпявала. Паступова, зь нізоў...*

## ДОН КАТАЯМА. ЧАЛАВЕК БЕЗ ГАЛАВЫ

„У мяне за сьцяной размаўляюць суседзі“, – піша Дон Катаяма на чыстым аркушы паперы. Гэта рытуальны сказ, зь якога пачынаецца кожны запіс. Насамрэч суседзі пакуль не размаўляюць, але аўтар чакае, як і штодня, калі пачуюцца іх галасы, і ён будзе запісваць тое, што яны кажуць. У пярэрвах паміж іхнымі словамі ён занатуе свае думкі і словы, зьвязаныя ці не зьвязаныя з тымі суседзкімі, і такім чынам у яго атрымаецца верш, або аповед, або проста дзёньнік. Дон Катаяма літаратар. Ён крыху старасьвецкі, бо піша заўсёды стоячы, стос паперы пакладзены на сакратэрку, зьлева ад яго – вакно, пранізанае промнямі вечаровага сонца. За шыбамі – вялікі гарадзкі двор: дрэвы, лаўкі, гушкалкі, дзеці, галубы... Дон

Катаяма доўга глядзіць у вакно, пакуль, нарэшце, за сьцяной не пачынаецца размова...

– Ці чула пра чалавека без галавы? – пытаецца хлопчык Кай.

„Ці чула пра чалавека без галавы?“ – запісвае Дон Катаяма.

– Толькі пра яго ўсе й гавораць, – адказвае дзяўчынка Герда.

„Толькі й гавораць“, – запісвае Дон Катаяма.

– Ты думаеш, так бывае? – пытаецца Кай.

– Ну, што ты! – кажа іхная маці Зоя. – Безгаловых людзей не бывае.

Жоўтае сонца дагарае ў вялікім гарадзкім двары, спакваля настае шарая гадзіна.

„А адкуль тады прыказкі: клёку ў галаве няма, на скрут галавы, страціў галаву?“ – пазначае Дон Катаяма naўзбоч асноўнага тэксту.

– Нам настаўніца ўвесь час кажа, што мы безгаловыя, – разважае ўголас Кай.

– Дачакайцеся бацькі і спытайце ў яго, – кажа маці Зоя, – непрыгожа пераказваць чуткі.

Дон Катаяма ведае, што іхны бацька – маёр Іван, які нясе службу і зьяўляецца ўдома позна. Хай бы дзеці захацелі дачакацца яго ды распытаць пра

чуткі, што ўжо ня першы дзень бунтуюць цэлы горад.

***

Некалі Дона Катаяму моцна зьдзівіла тое, што маёр Іван назваў сваіх дзяцей Каем і Гердай. А аднойчы, гэта было ці то ў краме, ці то ў двары, ці на ходніку, Дон Катаяма сустрэўся позіркам з маёравай жонкай Зояй з суседняга пад'езду і зразумеў, што перад ім зусім ня Сьнежная каралева, а жанчына прыгожая і разумная, можа быць, такая, зь якой радасна было б і яму, самотнаму літаратару і змагару з ікэбанавымі ветракамі. Шчыра кажучы, Дон Катаяма, як мужчына, нават жадаў маёраву Зою, але, зразумела, плятанічна, як літаратар. Прыязна ставіўся ён і да маёра Івана і сёньня чакаў ягонага зьяўленьня за сьцяною з асаблівай цікаўнасьцю.

Тым часам суседзі, як было чуваць, улучылі тэлевізар і глядзелі навіны. Бывала, і з гэтага нешта перападала нашаму летапісцу, нешта натхняла на ўласныя думкі, але рэдка. Навіны апошнім часам ня клікалі да развагі, бо былі ніякія, высмактаныя з пальца, а то й відавочна фальшывыя, і дыктары

чыталі іх з інтанацыяй галодных сабак, каб хоць такім чынам затрымаць глядацкую ўвагу ды пераканаць у праўдзівасьці.

Ужо была ноч, калі пачуўся сьцішаны голас дзелавітага маёра. Дачакаліся ўсе – і Герда, і Кай, і Зоя, і Дон Катаяма.

– Ёсьць такі факт, – сказаў маёр Іван, пазвоньваючы відэльцам аб талерку. – І гэты факт правяраецца.

– Як правяраецца? – выгукнулі ў адзін голас Кай і Герда.

– Ну, галоўнае, што такі факт ёсьць, – рэзюмавала маці Зоя, – і цяпер, дзеці, вы можаце ісьці спаць.

– Мы яшчэ трошачкі... Мы таксама хочам паслухаць...

– Я на службе, – разважаў за вячэраю маёр, – там скралі, там наехалі, а тут – чалавек без галавы! Ну, як мне гэта разумець?

– Разумей як факт, – супакойвала яго Зоя, – ёсьць гэты чалавек без галавы. Можа быць, сымпатычны і малады...

– А я чуў, – пасьпяшаўся сказаць хлопчык, – што ён ходзіць за горадам, на ім кальчуга, а ў руцэ ў яго меч. Ён ваяр невядомае бітвы!

– А я чула, – пасьпяшалася сказаць дзяўчынка, – што ён звычайны бомж.

Ён езьдзіць у тралейбусе і ад яго сьмярдзіць, як ад бамжа.

***

Чалавек без галавы быў прыдумкаю Дона Катаямы. Яму замовілі артыкул пра сьмяротнае пакараньне, вось ён і напісаў „Чалавека без галавы“. Ну, быццам камусьці адсякаюць галаву, але ён ня можа проста так узяць ды памерці, бо быў не забіты, а пакараны, гэта значыць, мусіць несьці сваю кару і ўсьведамляць яе. І таму ён ходзіць па горадзе, сядае ў тралейбусы, завальвае ў кавярні. Усе глядзяць на яго і жахаюцца, бо чуюць пах тлену. А яму ня тое каб няёмка, яму невыносна ўсьведамляць сваю заганнасьць, але ж ён нясе гэтае сваё пакараньне. Што толку, калі яго проста заб’юць? Быў, і няма. Забілі – закапалі – забылі. А ён ходзіць – ці то дакор, ці то навука іншым.

Спыніць гэта немагчыма, бо для пакаранага сьмерцю сьмерці не павінна быць, інакш ня будзе і кары. Выходзіць, чалавек без галавы – вечны? Не зусім так, бо ёсьць яшчэ адна акалічнасьць. Ён спыніцца ў той момант, калі будзе скасаванае сьмяротнае пакараньне, сьмерць ня будуць больш лічыць карай. Аднак,

калі б дзяржава зрабіла гэта ды адмяніла кару сьмерцю, яна б ускосна прызнала, што проста забіла яго, вось і ўсё. А з чаго б гэта дзяржаве захацелася прызнаць сябе забойцаю…

Артыкул разышоўся на рэпрынты і ўрэшце ператварыўся ў чуткі. А цяпер гэтая гісторыя ажыла за сьцяною на кухні ў хаце маёра Івана. Хутчэй за ўсё, такую чутку і пераказвала Герда. Але адкуль узяўся ваяр у кальчузе, ды яшчэ зь мечам, ды яшчэ што ён сноўдаецца недзе, наводзячы жах на прадмесьце, – гэта была загадка.

„Можа ён адбіўся ад якога-небудзь рыцарскага клюбу?“ – запісвае Дон Катаяма.

– Можа ён адбіўся ад рыцарскага клюбу? – кажа за сьцяной маёр Іван. – І тады, калі меч у яго сапраўдны, без галавы ён можа нарабіць бяды.

– Не, – пярэчыць бацьку Кай, – ён сапраўдны ваяр. Сярэднявечны. Проста бітва, якую вяло ягонае войска, не дасягнула мэты. Вось ён і зьявіўся, каб дарабіць справу.

– Пагатоў ён небясьпечны, – кажа маці Зоя. – Каб давесьці бітву да канца, трэба забіць ворага, а мы зусім ня ведаем, хто гэта, і каму пагражае сьмерць.

***

Дзеці нарэшце выпраўленыя спаць, і гаворка сужэнцаў пераходзіць на такі ціхі рэгістар, што не чуваць. За вакном – неба, поўнае зорак, і гук далёкага тралейбуса. Усё гэта перамешваецца ў думках зь відзежамі сярэднявечнай гісторыі. Сотні людзей у кальчугах штурмуюць горад. Паўсюль крыкі, скрыпяць катапульты, сіпіць усьпененая смала...

Успомніў! – спахопліваецца Дон Катаяма. Калісьці ён разблытваў адну такую сярэднявечную справу. Гэта Януш Чартарыйскі – чалавек без галавы! Асадка пачынае лётаць па паперы, даганяючы хуткія думкі.

Калі ў шаснаццатым стагодзьдзі шляхта выправілася на аблогу Пскова, сябра Януша Саламярэцкі скарыстаўся агульнай мітусьнёй і забіў яго, зьнёс яму галаву. А тады, вярнуўшыся на радзіму, пайшоў жыць да ягонае жонкі, у якую даўно быў закаханы. А ў летапісах занатавалі, што Януш Чартарыйскі падчас аблогі Пскова сам зваліўся з каня ды напароўся на ўласны меч такім чынам, што застаўся без галавы. І ўсе ў гэтае глупства паверылі. І да сёньня вераць. Ну, думаюць, мабыць, што мужны ваяр Януш перад атакай перабраў для храбрасьці. Але ж гэта поўны аб-

сурд! Януш, калі й перабіраў, дык толькі не перад бітвай. Праўда, Пскоў яны так і не ўзялі. Але ж і крыўдна ня гэта. Крыўдна, што Януш у выніку падступнага зьбегу абставінаў застаўся без галавы і бяз жонкі. І крыўда ягоная ня мае тэрміну даўнасьці. Таму ён і прыйшоў у горад, бо шукае сатысфакцыі, хоча знайсьці свайго крыўдніка ды адпомсьціць яму!

Сёньня ж уначы Дон Катаяма выставіць гэтую навіну на гарадзкім сайце. Чутка дойдзе да маёра Івана, і яны пачнуць шукаць Саламярэцкага, каб папярэдзіць забойства.

Раптам галасы за сьцяной чуюцца з новай сілай. Відаць, дзеці яшчэ не паснулі ці, можа быць, гэта размова ў сьне.

– Ён дужы і справядлівы, – працягвае заступацца за чалавека без галавы Кай.

– Прыду-умкі, – абрывае яго Герда. – Ніхто ж ня бачыў...

– Мы хочам стварыць у школе групу падтрымкі чалавека без галавы. Вось тады паедзем за горад і пабачым, – кажа Кай.

„Кожнага ў жыцьці перасьледуе свой чалавек без галавы, – запісвае Дон Катаяма, – каго рыцар, каго бомж, а каго сымпатычны маладзён. Гэта што, ад

браку гармонаў ці біяграфіі? А можа быць, гэта цень сумленьня?“

– Напэўна, усё так і будзе, – адказвае Каю маці Зоя, – а сёньня ўсім пара спаць.

Галасы за сьцяною сьціхаюць. Дон Катаяма запарвае сабе гарбату, сядае да кампутара і заходзіць на гарадзкі сайт.

***

Жарсьці ў сеціве кіпяць толькі вакол аднае тэмы – чалавека без галавы. Наведнікі пішуць, дзе і калі яго бачылі, як ён выглядаў, і выказваюць здагадкі, хто ён, адкуль прыйшоў і навошта. Вэрсіі натыкаюцца адна на адну як крыгаход. Сустракаюцца вядомыя – пра бамжа ў тралейбусе і ваяра зь мячом. Але ёсьць і іншыя.

„Ён Хрыстос! – (Нічога сабе, Хрыстос без галавы...) – Ён нясе нам збавеньне – (Ад каго ці чаго, цікава. Можа, ад галавы?) – Гэта Яго другое прышэсьце. Радуйцеся! Ён вызваліць нашыя душы, загоіць усе раны, адкажа на ўсе пытаньні – (Якім чынам ён будзе адказваць – без галавы?)...“

„Гэта Дон Кіхот, наш высакародны рыцар. Ён прыйшоў, каб разбурыць

ветракі нашага цынізму!“ (Дакладна – пра мяне.)

„Заратустра!“

„Страшны суд!“

„Ды што вы ўсё пра нейкіх прарокаў! Бачыў я яго надоечы ў прадмесьці. Ён сапраўды ў кальчузе, але ніякі не прарок. Тупая разьюшаная істота мэханічна махае сваім даўжэразным мячом – бяз толку і бяз мэты...“

„А ці былі там двухручныя мячы?“

„Дзе – там?“

Ацэнкі – што тая хваля прыбою, – разважае Дон Катаяма, – ці чароды рыбак. То ўсе накідваюцца на вэрсію Хрыста, то раптам у адваротны бок – да антыхрыста, Гітлера, сярэднявечных катаў на рынку. Наш герой можа быць кім заўгодна, калі ня мае галавы. Прычым апошняя акалічнасьць не заміне яму ў гэтым. Рыбкі паплывуць туды, дзе ёсьць пракорм, і куды пакліча іх вецер.

Тут жа трапляюцца і вершы, і нейкае падабенства апавяданьняў.

„Штораніцы па нашым полі блукае чалавек без галавы. Ён то запыніцца, то валачэцца невядома куды, то кінецца бегчы ды зноў вяртаецца на ранейшае месца. Часам ён заходзіць у горад, наводзіць жах на мужчын, выклікае млосьць у кабет і сьмех маленькіх дзя-

цей... Кальчуга і меч у руцэ азначаюць у ім воя, а па лахманах ужо нельга пазнаць, зь якога ён войска, за што ваюе, і хто ягоны вораг. Ніхто ня ведае, хто ён, у якой сечы страціў сваю галаву і чаго яму трэба. Ня ведае гэтага і ён сам. Але ягонае жывое сэрца зноў вядзе яго зь ягонага схову то ў поле, то ў горад. Не знаходзіць сабе месца безгаловы ваяр“.

Ён – мастак-пэрформэр, ён – правакацыя ўладаў, ён – вядомы апазыцыйны палітык, які шмат гадоў таму выехаў за мяжу...

„Я кахаю яго. Наталі“.

Калі фантазія наведнікаў вычарпалася, яны сышліся на думцы, што чалавек без галавы кагосьці шукае. Ізноў было шмат здагадак, пакуль уся грамада не наблізілася да высновы, што ахвяраю монстра можа быць кожны з нас.

Апошні па часе допіс пакінуў вядомы ў горадзе доктар Заяц:

„Чалавек без галавы – гэта плён нашых выдумак. Кожнаму з нас неабходны свой чалавек без галавы – як свой адбітак, як свая ўласная безгаловасьць, што існуе не ў табе, а ў кімсьці іншым, нібыта асобна ад цябе. Уладам ён патрэбны, каб сьпісваць на яго ўсялякі недахоп уласнага кіраваньня. Але й

кожнаму з нас ён даецца для таго самага“.

„У мяне за сьцяной размаўляюць суседзі“, – напісаў Дон Катаяма ў вакенцы для камэнтароў і пайшоў спаць.

***

– І што яны кажуць? – спытаўся доктар Заяц, быццам іхная размова, пачаўшыся ў сеціве, натуральна працягвалася наяве.

Сваім вузкім колам яны штодня сустракаліся ў летняй кавярні каля вялікага гарадзкога двара Дона Катаямы: ён, доктар Заяц і прафэсар Солад.

– Ды падурэлі ўсе праз гэтага чалавека без галавы, – адказаў Дон Катаяма, – ці вы чулі самую апошнюю вэрсію? Нібыта гэта наш Прэзыдэнт.

Усе азірнуліся.

– Ну, доля праўды ў гэтым ёсьць, – заўважыў прафэсар Солад. – Калі ўсіхная ўвага прыкутая да аднае пэрсоны, нічога дзіўнага, што і кожны іншы аб’ект такой увагі асацыюецца з Прэзыдэнтам. Нават калі ў аб’екта няма галавы.

Насамрэч, безгаловасьць – ня толькі мінус, але, можа быць, і плюс, калі гаворка ідзе пра палітычную інтуіцыю і

патрэбу прымаць безаглядныя рашэньні. Мы жывем у зблытаныя часы, калі ніякія намовіны не працуюць, а дзейнічае толькі тое, чаго ніхто не чакае – як чалавека без галавы ніхто не чакае за столікам у кавярні.

– Мой сусед за сьцяной – маёр Іван. Думаю, сёньня ўвечары ён раскажа пра вынікі свайго сьледзтва, якое распачаў учора, – прамовіў Дон Катаяма. – А пакуль хацелася б пачуць ад шаноўнага прафэсара яго ўласную вэрсію. Наколькі я ведаю, вы сустракаліся з гэтым чалавекам без галавы.

Прафэсар Солад паглядзеў на Дона Катаяму крыху зьдзіўлена, пасьля адкінуўся на сьпінку крэсла і, памешваючы лыжачкай цукар у кубку з кавай, пачаў свой распавед.

– Гэта быў экспэрымэнт. Вы ж ведаеце, як я люблю ўсялякія экспэрымэнты. Дык вось. Я напісаў яму цыдулку, паклаў яе пад камень, а назаўтра знайшоў на тым месцы ягоны адказ.

– І што ён адказаў? – у адзін голас спыталіся Дон Катаяма і доктар Заяц.

Прафэсар Солад загадкава ўздыхнуў, але вымавіць не пасьпеў.

***

– Усім заставацца на сваіх месцах! – пачулася каманда ад уваходу ў кавярню. Гэты загад аддаў маёр Іван, які разам зь яшчэ двума вайскоўцамі ўскочыў у памяшканьне.

Незвычайнасьць сытуацыі была ў тым, што вайсковы кіцель маёра быў расшпілены на ўсе гузікі. Можна было падумаць, што ён і ягоныя калегі крыху падвяселеныя.

– Мы шукаем чалавека без галавы, – заявіў маёр Іван. – Праверка дакумэнтаў.

Усе прысутныя ў кавярні заварушыліся, шукаючы ў сумках ды па кішэнях свае пашпарты.

– Дзіўная ідэя, – напаўголас сказаў Дон Катаяма, – хіба можна чалавека без галавы знайсьці паводле пашпарту, а не паводле безгаловасьці?

– Мабыць, у пашпарце ў безгаловага на здымку павінны быць адныя плечы, – пажартаваў прафэсар Солад. – Хоць, калі сур’ёзна, вы ж ня думаеце, што маёр мог паверыць, што нехта сапраўды ходзіць па кавярнях без галавы. Таму шукаюць, хутчэй за ўсё, кагосьці, хто гэтага чалавека без галавы прыдумаў. Магчыма, ім нават вядомае

прозьвішча, – сказаў ён, падаючы свой пашпарт маёру.

– Я й так бачу, што вы з галавой, – адхіліў маёр ягоную руку.

Аблава скончылася гэтак жа хутка, як і пачалася. Вайскоўцы выскачылі з кавярні. Народ ажывіўся ды стаў абмяркоўваць нечаканае здарэньне.

– Іхная сыстэма дае збоі, – заўважыў прафэсар Солад. – Вось чаму яны такія расшпіленыя.

– Гэта праўда, – пагадзіўся доктар Заяц. – Калі іхная сыстэма сутыкаецца з чыстымі сублімацыямі, яна зьбіваецца. І як гэта ня прыйдзе ў галаву нашай апазыцыі?

– Ні слова пра палітыку, шаноўныя, – зьмяніў тэму Дон Катаяма. – Мне ня церпіцца пачуць, што ж там было, у той цыдулцы чалавека без галавы.

Прафэсар Солад нясьпешным рухам паклаў свой пашпарт у кішэню, дастаў адтуль згорнуты аркушык і працягнуў калегам – чытайце.

***

– Але тут нічога няма, – выгукнулі Дон Катаяма і доктар Заяц.

– Правільна! – пацьвердзіў прафэсар Солад. – А што, вы хацелі, каб чала-

век, у якога няма галавы, гэта значыць, мазгоў і вачэй, нешта напісаў? Тым ня менш, ён адказаў мне. І я, з вашага дазволу, перакажу сутнасьць ягонага адказу.

– Гэта будзе прыблізна тое, што я ўчора напісаў на гарадзкім сайце? – спытаўся доктар Заяц.

– Прыблізна, – зрабіў націск на слове прафэсар Солад. – Але ўсё ня так проста. Спачатку пра маё да яго пытаньне. Магчыма, яно падасца вам ненавуковым, але найперш мною рухала самая звычайная цікаўнасьць. Я пісаў: слухай, чалавек без галавы, раскажы, што *там*, ты ж *адтуль*? І вось ён адказвае: я не таму *адтуль*, што без галавы, а таму, што пазбавіўся асабовасьці! *Там* – субстанцыя шчасьця і любові.

Прафэсар Солад урачыста ўсьміхнуўся, быццам зрабіў адкрыцьцё. Ягоны твар нібы асьвятліўся ўнутранай музыкай, якую выразна пачулі ўсе застольнікі.

– А што гэта значыць – пазбавіўся асабовасьці? – спытаў Дон Катаяма.

– Значыць, вызваліўся. Стаў самім сабою. Сам сябе зрабіў.

– Прыемна чуць, што наперадзе – толькі шчасьце і любоў, – уставіў доктар Заяц.

– Тут трэба мець на ўвазе, для каго

тое шчасьце, – удакладніў прафэсар Солад. – Чалавек увогуле – ня проста боскае стварэньне, але і прадукт грамадзтва, што і праяўляецца ў ягонай асабовасьці. А калі ты хочаш, каб наперадзе была субстанцыя любові, мусіш пазбавіцца асабовасьці. Бо любоў – зьява нагэтулькі ж абсалютная, наколькі недасканалы кожны з нас праз свае прыватныя адметнасьці. Інакш кажучы, чалавек не адпавядае субстанцыі шчасьця. Вось наш герой і пазбавіўся гэтых адметнасьцяў. Стаў абсалютным самім сабой, боскім стварэньнем без дамешкаў сям'і, школы, літаратуры, тэлевізара, усялякіх умоўнасьцяў...

– Значыць, гаворачы пра субстанцыю шчасьця, мы кажам пра тое, чаго ў рэчаіснасьці няма, – канстатаваў Дон Катаяма.

– У нашай рэчаіснасьці, – удакладніў доктар Заяц.

***

Вечаровае сонца зноў залівала ўвесь вялізны двор за вакном, калі Дон Катаяма ўстаў да сваёй працоўнай сакратэркі. Але гэтым разам галасоў за сьцяной чакаць не давялося. Маці Зоі й маёра Івана, напэўна, не было дома,

і дзеці маглі вольна размаўляць паміжсобку.

– Сёньня мы ўцяклі з трэцяга ўроку ад хіміцы і паехалі за горад, – распавядаў Кай. – Доўга шукалі чалавека без галавы, але знайшлі! Ён праскакаў міма нас на баявым кані.

– Проста як у Майн Рыда, – пасьміхнулася Герда, – скажы яшчэ, што ён шпагай расьпісаўся, намаляваў вам на партфэлях знак „Z“.

– Нічога ён не расьпісваўся. Проста праскакаў міма. Ён вельмі прыгожы станавіты рыцар.

– Ведаю. У нас у клясе ўсе дзеўкі ў яго закахаліся.

– А гаварыла, што бомж у тралейбусе... Бачыш, хто меў рацыю? І ты таксама ў яго закахалася?

– А што я, горшая за іншых? Што, не магу сабе ўявіць...

– Што ўявіць?

– Ну, што кахаю яго. Вось, я выходжу да яго ў поле і кладу рукі яму на плечы. І ён растае ў маіх абдымках, мужны ваяр...

Фантазіі дзяўчынкі перапыняе бразгат дзьвярэй.

– У гэтым горадзе ўсе безгаловыя, – чуецца голас маці Зоі, – паўсюль чэргі, усе толькі й гавораць пра рыцара без галавы.

– Герда ў яго закахалася, – выдаў таямніцу Кай.

– Гэта ён прыдумаў, – асекла Герда.

– І каханьне такое ж безгаловае, – стомлена выдыхнула маці Зоя.

„У прынцыпе ўсе гэтыя фантазіі, магчыма, – ня што іншае, як пошук героя свайго часу, – піша Дон Катаяма, пакуль за сьцяною доўжыцца пярэрва ў размове. – З часоў Майн Рыда шмат сплыло вады, а сучасная літаратура ніякіх такіх вобразаў не стварае. Калі раней чалавек дачытваў кнігу з уражаньнем вялікай любові, што надае сэнс усяму на сьвеце, у тым ліку, і ягонаму жыцьцю, дык сёньня – як пацярухі паперабіраўшы... Герояў або няма, або яны нейкія недаробленыя, недагероі. Застаецца адно пытаньне: чаму як станоўчы герой, дык абавязкова без галавы? Можа, праўду казаў прафэсар Солад пра боскае стварэньне, чалавека без асабовасьці, абсалютнага героя, якому толькі й дадзена ўвайсьці ў субстанцыю шчасьця? А можа, гэта мы такога прыдумляем, бо самім ня дадзена...“

***

– Сёньня ўзялі дванаццаць чалавек без пашпартоў, – за сьцяною зьявіўся маёр Іван.

– А зь якой нагоды пілі на службе? – спыталася маці Зоя.

– Хто? Я? – выказаў непаразуменьне маёр Іван і пасьля дадаў. – Сказалі, што чыстая філязофія. Вось ідзі й затрымай чыстую філязофію. Знайдзі немаведама што. І гэта ж загад. Дык што заставалася? Дакрануцца да нірваны. А раптам гэтак якое рашэньне і падкажацца. Нездарма ж і сам палкоўнік з намі прыклаўся. Бо затрымаць чыстую філязофію ня так проста. Ідзі, знайдзі таго, хто галаву страціў. Каб знайсьці такога, трэба самому трохі згубіць галаву. Так палкоўнік сказаў.

– Ну, і як посьпехі? – запыталася Зоя.

– Складана, – уздыхнуў маёр. – Правялі апэратыўную нараду. Высьветлілі, што ўсе наогул людзі ў нейкім сэнсе без галавы. Ну, як паглядзець. Вось я, быццам з галавой, а калі без галавы браць, усё астатняе, дык таксама ж буду я, але без галавы.

– Лягічна, – сказала маці Зоя. – Дык можа й лавіць нікога ня трэба?

– Лавіць трэба, – адказаў маёр. – Заўсёды гонісься за тым, хто ўцякае.

– А ён уцякае?

– Да, – раптам па-расейску сказаў маёр. – Мы ж яго яшчэ не злавілі.

Далей да размовы далучылася Герда, і ў Дона Катаямы ад яе словаў запала сэрца.

– Тата, ведаеш, сёньня ў сеціве напісалі, што, быццам, чалавек без галавы – гэта канкрэтны чалавек.

– Хто напісаў? – сур'ёзна запытаўся маёр.

– Нейкі Дон Катаяма, літаратар.

– І што?

– Ну, што чалавек без галавы – гэта ваяр, бітва якога ня скончылася.

– Як прозьвішча?

– Чартарыйскі. Чартарыйскі Януш, якога нібыта забілі пры аблозе Пскова. І ня ворагі забілі, а ягоны найлепшы сябра Саламярэцкі Багдан. Гэты Саламярэцкі быў закаханы ў жонку Януша. Ён яго забіў, зьнёс яму галаву ў гармідары бітвы, а пасьля вярнуўся і пачаў жыць зь сябравай жонкай, нібыта ён герой ды яшчэ й дабрачынны чалавек, які ўзяў удаву. А пра Януша сказаў, што той сам зваліўся з каня на ўласны меч, і галава яму адсяклася. Дык вось, цяпер гэты Януш вярнуўся і хоча адпомсьціць за сваё зганьбаванае кахань-

не, сяброўства ды змарнаваны лёс... Так там напісана.

Яна яшчэ дагаворвала апошнія словы, а маёраў голас ужо чуваць быў ці то з далёкага пакою, ці то з калідору. Маёр аддаваў загад тэлефону.

– ... правер усіх Саламярэцкіх. Па рэспубліцы? Чаму па рэспубліцы? Па горадзе. Ён жа сюды прыйшоў помсьціць. Давай хутка, і паведамі мне.

Вось як, – сказаў сам сабе Дон Катаяма і прысеў да кампутара. Гарадзкі даведнік знайшоў яму аднаго Саламярэцкага, якога ён і сам даўно ведаў. Данчык жыў у доме насупраць і прэпараваў жывёлаў для гарадзкога краязнаўчага музэю.

[Тут аўтар, відавочна, заступае не на сваю тэрыторыю. Данчык Саламярэцкі ў якасьці краязнаўцы-суседа, музэй, прэпараваныя жывёлы... Караткевіч настойліва грукае ў шыбіну хаты на Лысай гары, і аўтар разумее намёк.]

Адзіным Саламярэцкім у горадзе быў уладальнік аўтасэрвісу, на будынку якога вісела шыльда „Шынамантаж“. Знаходзілася майстэрня ў прадмесьці. І пакуль маёр Іван чакаў сваю „апэратыўку“, абезгалоўленае цела Саламярэцкага знайшлі на задворку ягонага ж „Шынамантажу“. Пра гэта журналістам па-

ведамілі сьлесары аўтасэрвісу Кайлюс і Зелба.

Хе-хе, – сказаў сам сабе Дон Катаяма, чытаючы гэтую навіну на гарадзкім сайце. Правільная разгадка таямніцы Саламярэцкага натхніла яго, і ён задумаўся пра ўласнае дазнаньне сюжэту чалавека без галавы.

Суседзкія галасы ў гэтай справе дапамагчы ўжо не маглі, заставалася спадзявацца толькі на інтуіцыю.

***

Значыць, Януш адпомсьціў Саламярэцкаму... Сябра абезгаловіў сябра... Аднак у цэнтры гэтай мужчынскай гісторыі павінна быць жанчына. Жонка аўтасэрвісьніка? Але гэтых жонак ён мяняў шмат разоў. Ён запіваў, і тады бізнэс ягоны занепадаў, бывала, на доўгія месяцы. Пасьля Саламярэцкі адраджаўся да жыцьця, як той фэнікс, і разам зь ім адраджаўся ягоны бізнэс. І штоазу такі катаклізм суправаджаўся зьменаю жонкі. Пры гэтым у кожным шлюбе нараджаліся дзеці. А ўсіх гэтых жонак і дзяцей трэба было забясьпечыць, у чым і быў галоўны стымул для выхаду бізнэсоўца з запояў.

Пра ўсё гэта Дон Катаяма распавёў

назаўтра ў кавярні доктару Зайцу і прафэсару Соладу.

– У жанчын фантастычная інтуіцыя, – сказаў доктар Заяц, – ніколі не паверу, што Янушава ўдава так ніколі й не адчула, што зь ёю жыве хлус.

– Але яна магла і хацець Саламярэцкага больш за ўласнага мужа Чартарыйскага, – заўважыў прафэсар Солад. – Трэба глядзець з усіх бакоў і дапушчаць нават тое, што забойства Януша было сплянаванае Саламярэцкім разам зь Янушавай жонкаю. Жаночую падступнасьць таксама не выпадае скідаць з рахункаў.

– На добры лад Януш, калі гэта ён, сьцяўшы Саламярэцкага, павінен вярнуць сабе сваю жонку, – разважаў уголас Дон Катаяма. – Але ў нашага шынамантажніка жонкі мяняліся, як пальчаткі. Дзе ж яе шукаць?

Калегі змоўклі, смакуючы каву.

– Я думаю, што гэта павінна быць жанчына мары, – сказаў прафэсар Солад. – Тады ўсё пасуе. Мройны рыцар без галавы шукае жанчыну мары. Зьяўляецца адпаведнасьць. Ці ў вас ёсьць такая жанчына, Дон Катаяма? Не прыдуманая, не „зь мінулага жыцьця“, а рэальная, сёньняшняя жанчына мары?

– Гм, – запнуўся Дон Катаяма, думаючы, ці выдаваць таямніцу. Але прафэ-

сійны літаратар і дасьледнік у ім перамог пачуцьці звычайнага мужчыны. Пагатоў і прыяцелі яго былі далёкімі ад рэальнасьці летуценьнікамі і экспэрымэнтатарамі. Іх цікавілі рэчы ў сваім чыстым выглядзе, а звычайная закаханасьць – сама-сабою проста дамешак. – Калі так, то гэта Зоя, жонка маёра Івана і маці ягоных дзяцей Кая і Герды.

– Забаўна, – сказаў доктар Заяц, – там ваяка Януш, тут маёр Іван, што ў самай рэчы адно й тое самае. Хто зь іх без галавы?..

– Значыць, усю праўду ў гэтай гісторыі ведае Зоя? – прамовіў Дон Катаяма. – Але я ж да яе і падступіцца не магу. Больш за тое, зусім не хачу ўлазіць у ейную сям'ю і разбураць гэты свой вобраз – жанчыны мары.

– Усё слушна, – сказаў прафэсар Солад, – як слушна і тое, што наш чалавек без галавы будзе цяпер шукаць Зою.

– Навошта? – выгукнулі ў адзін голас Дон Катаяма і доктар Заяц.

– А каго яму яшчэ шукаць? – задумліва сказаў прафэсар Солад. – Ён блукае па прадмесьці, сьцінае няшчаснаму Саламярэцкаму галаву, але ягоная субстанцыя шчасьця і любові – у ёй, у Зоі. Проста бачыць яе, кахаць яе – гэта ж абсалют. Калі згадаць ягоную

цыдулку. Застаецца высьветліць апошнюю дэталь. Ці перабягаў Зоі хоць калінебудзь дарогу чалавек з прозьвішчам Саламярэцкі. Зрэшты, асабіста мне й так ясна, што перабягаў.

– Але маёр Іван мусіў пра гэта ведаць, – сказаў Дон Катаяма, – чаму б ён тады ўчыняў аблаву ў кавярні, аддаваў загад шукаць усіх Саламярэцкіх ды разважаў пра немагчымасьць злавіць чыстую філязофію?

На гэтае пытаньне адказаў доктар Заяц. Ён дапіў каву і прамовіў:

– Маёру ўласьцівыя тры рэчы: даганяць, уцякаць і хавацца. Ён ужо дагнаў, ужо ўцёк і цяпер замятае свой сьлед.

*У нізкім сьпеве опэрнай цёткі заўсёды чуваць нуду, быццам цётка корпаецца ў каморы і нешта сама сабе бурчыць. Але ўрэшце яна знаходзіць тое, што шукала, і аказваецца, гэта тое, што схаваў ад яе ты! Бо да цябе яна павярнулася і зыркнула так, нібы зьела ўсяго з трыбухамі.*

*Што тут пачынаецца! Голас яе раптам узьлятае ўгору, і яна ўжо ніякая ня цётка (ці ня гэтыя твае словы пра яе яна адшукала ў каморы?), яна сапраўдная сырэна. Як жа невыносна плавяцца твае трыбухі ў ейным чэраве!*

*Ты крышку ачомаўся і чуеш, што й нуда ў гэтым яе выцьці засталася. Бо гэта ў крыві. Яна з маленства ведае, што клясыку амаль ніхто ня любіць, усе ўважаюць яе нудою. І гэтая думка сядзіць у падкорцы нават у самых заўзятых клясычных мэляманаў. Можа быць, яны і слухаюць гэта ўсё, каб пераканаць самім сябе ў адваротным –*

*што клясыка клясная, што яны яе рэальна слухаюць і яна рэальна іх заводзіць.*

*І раптам ты чуеш, як да ўсяго далучыўся электрычны бас. У яго зусім іншае напаўненьне, іншы аб'ём, ён відавочна не сваяк габоям, валторнам і опэрнай цётцы. І ты разумееш, што справа дайшла да чагосьці, што было ў „Чатырох сэзонах“, у „Леце“, калі ўсё млела і мулялася ад сьпёкі, і тут пачалася навальніца. Я кожнага разу слухаю і проста ня веру, што такое могуць сыграць нейкія звычайныя людзі-музыкі. Яны граюць, а я ня веру. Можа, у іх пасяліўся нейкі незямны дух? Як той казаў, нечалавечая музыка.*

## ЧУЧУНДРА.
## КАЗКА ДАЖДЖУ

Позна ўвечары доктар Заяц атрымаў ад прафэсара Солада ліст:

„Шаноўны доктар! Як мы і дамаўляліся, наша падарожжа на Чучундру адбудзецца заўтра. Прашу вас а шостай раніцы прыйсьці ў 12-ты сэктар аэрапорту. Даруйце за раньні час, але хацелася б укласьціся ў адзін дзень. З павагай, прафэсар Солад“.

Раніцою а шостай было яшчэ зусім цёмна, і дождж ліў, як з лубу. Што ні рабіў доктар Заяц, нацягнуўшы гумовікі, плашч-палатку, а да ўсяго накрыўшыся парасонам, але ў прызначаны сэктар зьявіўся прамоклы наскрозь.

Тоўстыя струмяні залевы хвасталі па ім, па ўзьлётных палосах, па вялікай белай лічбе „12“, намаляванай на асфальце, па срабрыстым корпусе гелікоп-

тэра. Ад павіслых сярод шрубоў буйных кропель здавалася, што ўвесь корпус пакрыўся бліскучымі пярлінамі.

– Падымайцеся сюды, доктар, – пачуўся зьверху прафэсараў голас. – Толькі ўлічыце, што я зусім нядаўна пачаў кіраваць гэтай штукай, таму боўтанкі будзе больш, чым трэба.

Доктар ускараскаўся па драбіне і пачаў атрасаць зь сябе ваду.

– Гэта бяз сэнсу, – сказаў прафэсар. – Я падрыхтаваў для вас сухія паходныя рэчы, пераапранайцеся, а я пакуль запару гарбаты, каб вы не прастылі.

На хвіліну ён заняўся кіпнем і зьмяніў тэму:

– Мінулы раз я казаў вам, што Чучундра – унікальнае месца. Але, прызнаюся, сам ніколі там не бываў. Таму давялося пераглядзець шмат кніжак. Пра яе пішуць часта, але за апошняе стагодзьдзе там бывалі хіба што адзінкі. І пакінулі надта супярэчлівыя сьведчаньні... Вось ваша гарбата.

Пераапрануты доктар Заяц сеў на крэсла побач з прафэсарам Соладам, прафэсар запусьціў рухавік, і іхны гелікоптэр адарваўся ад паверхні.

***

Залева абрынаđлася зь нябёс і засьцілала ўсё навокал. За лабавым шклом клубіліся шэрыя хмары, трэсла і гайдала так, быццам яны ехалі ўзараным полем. Доктару Зайцу падалося, што вадзяная заслона – ня звонку, а недзе ў ягонай сьвядомасьці, дзе ўсё на хвілю замуцілася і быццам страціла сэнс. Але ж некуды яны ляцелі. І бадзёры голас прафэсара Солада гучаў проста па-над вухам.

Доктар сабраўся з думкамі:

– Мінулы раз, дарагі прафэсар, вы распавядалі пра дзіўны экспэрымэнт, які зрабілі з Чучундрай ейныя насельнікі. А як яны называлі сваю мясцовасьць да таго, як пачалі называць яе Чучундрай?

Прафэсар напружыў памяць і сказаў:

– Гугаль Эрс.

– Гугаль Эрс? – перапытаў доктар. – Дзіўная назва.

– Бачыце, – разважаў прафэсар, – яны ад пачатку ўсё зблыталі. Прычым цалкам сьвядома. Яны прыдумалі самаабмежаваньне і падпарадкавалі яму ўсё. А затым пераадоленьне гэтага самаабмежаваньня зрабілі сэнсам свайго жыцьця. На маю думку, гэта быў цалкам ірацыянальны шлях.

Ну, да прыкладу, для прасторы яны прыдумалі адлегласьць – усякія далёкія шляхі і сьветлавыя гады. Хоць у сьведчаньнях іхных старажытных продкаў вы ня знойдзеце ніякіх праблемаў зь перамяшчэньнем у прасторы. Выправіўся кудысьці за трыдзевяць зямель і дастаўся да месца. Ніякага пераадоленьня, ніякіх намаганьняў, ніякай стомы і ніякіх „бясконца доўгіх дзён-месяцаў-гадоў“ у дарозе... Чамусьці не падабалася ім бясконцасьць.

Яны паверылі, што адлегласьць трэба пераадольваць. І каб гэта ўсё не здавалася абсурдам, прыдумалі гравітацыю. Каб ужо зусім цяжка было рухацца. Ну, а калі такія перашкоды, тым большая заслуга пераадоленьня. Свой „подзьвіг“ яны назвалі асваеньнем космасу. А сьведчаньні продкаў, якім прасьцей простага было дастацца хоць на Месяц, хоць да Сонца ці да зор – як нам з вамі, – схавалі і забылі. Наўзамен гэтага яны назвалі імі самімі прыдуманыя абмежаваньні навукай. Ад продкаў у іх ацалела яшчэ рэлігія, але рэлігію яны ўважалі антынавукай, а сваю навуку – адзіна правільным вучэньнем. Словам, пераблыталі ўсё на сьвеце. Яны й не заўважылі, што зблытваць усё з усім сталася іхным крэда, накшталт сымбалю веры.

Доктар Заяц слухаў расповед прафэсара і ня зьмеціў, што залева тым часам скончылася, а замест яе ім насустрач ляцелі нейкія рэчы – зусім дробныя друзачкі і ладных памераў фрагмэнты нейкіх мэханізмаў, сярод якіх гелікоптэру даводзілася лавіраваць, нібы ў лябірынце.

– Мы з вамі проста ляцім і нічога не пераадольваем, – працягваў прафэсар Солад, – а яны „асвойвалі космас“. Глядзіце, як яны тут насьмецілі. Праўда, яны жылі сто гадоў таму. Тупік падпільноўваў іх у тым збоі лёгікі, паводле якой яны ня бачылі меры ў самаабмежаваньні і яго пераадоленьні.

***

Гелікоптэр ледзьве ўхіліўся ад вялізнае касьмічнае жалязякі, што ляцела проста насустрач.

– Вы падыходзіце да тэмы мутацыі? – падтрымаў гаворку доктар Заяц.

– Так, – сказаў прафэсар. – Спачатку ўсё ішло быццам някепска. Яны разважалі так: навошта вырошчваць цэлае поле жыта, калі можна выгадаваць адзін вялізазны колас? І навошта даглядаць статак кароваў, калі можна генэтычна злучыць яго ў адну вялізазную

каровішчу. Яны проста як памаўзьлівыя лезьлі-занурваліся ў структуру будовы ўсяго жывога і нежывога, усё глыбей і глыбей. А тады навучыліся той колас-хлебішча скрыжоўваць з той каровішчай і, шчасьлівыя, атрымалі адразу шмат хлеба, малака і мяса, прытым у адным пакунку. Тут бы ім і ўтаймавацца. Але ж не, мэханізм пераадоленьня самаабмежаваньня раскручаны напоўніцу. Яны ўсё глыбей лезуць у сьветабудову і скрыжоўваюць сваю хлебакаровішчу са спажыўцом хлеба, малака і мяса, гэта значыць, з чалавекам. Ну, а чалавеку шмат чаго трэба, напрыклад, перамяшчацца, пераадольваць тыя непераадольныя адлегласьці. І тады яны скрыжавалі сваю пачварыну з самалётам, параплавам і цягніком! Уяўляеце?

– Шчыра кажучы, не.

– Я таксама не ўяўляў. Пакуль не пабачыў Чучундру на карціне тагачаснага мастака Марачкіна. Ён маляваў яе з натуры сто гадоў таму. Алеем. Страхацішча, скажу я вам, дарагі доктар. Там і пер’е і футра і мэталёвыя лопасьці... жывое цела, што зраслося з плястыкам... – усё зьмяшанае ў адным агромністым камячышчы, якое пры гэтым яшчэ й бегае, лётае ды плавае... Затое, есьці не патрабуе. Наогул, нічога не

патрабуе. Гэта яны ўважалі за найвялікшае дасягненьне.

Доктар Заяц насьцярожыўся:

– Ці сёньня мы пабачым Чучундру жыўцом?

– Думаю, што не, – уздыхнуў прафэсар Солад. – Хоць, натуральна, паспрабуем пашукаць такі надзвычайны экзэмпляр. Але ж рэч у тым, што яны не спыніліся і на гэтым! Скрыжаваўшы ўсё з усім, яны пастанавілі злучыць Чучундру з самою плянэтаю Гугаль Эрс. Калі б экспэрымэнт ня ўдаўся, яны, напэўна, і дагэтуль жылі б там, куды мы з вамі ляцім. Але сто гадоў таму яны пакінулі сваю мясцовасьць, якая з тых часоў стала называцца Чучундрай. Гэта азначае, мутацыя прайшла пасьпяхова.

***

Тым часам сьвітала. Доктар Заяц зачаравана глядзеў на вялізны блакітна-зялёны шар наперадзе. Шар імкліва набліжаўся, і на ім прамалёўваліся контуры мацерыкоў і акіянаў. Яшчэ крыху, і шар страціў свае абрысы, а наперадзе была суцэльная сьветлая прастора, зацягнутая аблокамі.

– Вось халера, – выгукнуў прафэсар

Солад, – падобна, што і тут таксама дажджы!

– Што зробіш, – азваўся доктар Заяц, – сэзон. Спадзяюся, мы з вамі ня будзем надта пераймацца пераадоленьнем гэтага абмежаваньня. Як той казаў, дождждык моча – сонца сушыць... У вашым расповедзе, дарагі прафэсар, для мяне няяснай засталася адна дэталь. Зь якіх крытэраў яны зыходзілі, калі адбіралі для мутацыі людзей?

– Гэта цэлая эпічная гісторыя, – уздыхнуў прафэсар. – Яны адбіралі не людзей, а народ. Былі праведзеныя грунтоўныя дасьледаваньні наконт таго, які з народаў найменш верыць у сваю будучыню. Усё ж такі яны лічылі сябе гуманістамі, таму самаму зьняверанаму народу хацелі падарыць шанец на выжываньне. Словам, абралі найбольш беспэрспэктыўнага. І перамог у гэтым рэйтынгу беларускі народ. Беларусы. Ня тое, каб яны не хацелі жыць, але яны найменш за іншых хацелі быць самі сабою. Пры гэтым адна ўплывовая партыя ў іх наракала на другую, быццам тая прымушае іх пазбаўляцца сваёй самабытнасьці. А другая партыя наракала на першую, якая нібыта прымушала іх станавіцца нейкімі там самабытнымі, бо без самабытнасьці было прасьцей,

за яе ня трэба плаціць. Самабытнасьць, як вы ведаеце, каштуе.

Тады шмат праводзілася апытаньняў, і беларусы былі ў выніку першымі кандыдатамі на мутацыю. Вось жа яны і сталі тым народам, які быў скрыжаваны спачатку з тым хлебакаровацягнікам, а пасьля і з самой плянэтай.

– Вы хочаце сказаць, што ўсе народы пакінулі плянэту, а беларусы засталіся?

– Так яно і было. Праўда, „засталіся“ – не зусім дакладнае акрэсьленьне. Цяпер яны і ёсьць тое, куды мы ляцім. Яны і ёсьць Чучундра.

***

Гелікоптэр рухаўся нізка, над самымі вершалінамі дрэваў. Ён то трапляў у заслону дажджу, то вырываўся на чыстую прастору, і тады падарожнікі заварожана разглядалі краявід.

Дубровы здаваліся ім падобнымі на паркі, а сьветлыя стужкі рэк нагадвалі аўтастрады. Зялёны колер усіх магчымых адценьняў дамінаваў у краявідзе. Тут нідзе не было відаць прыкметаў жыцьця, але, разам з тым, ад усяго абшару зыходзіў загадкавы дух абжытасьці. Падарожнікам мярэсьцілася,

што вось-вось за наступным ляском яны ўбачаць дом альбо чалавека, альбо статак.

На імгненьне іхная мроя ўвасобілася ў рэальнасьць. Па зялёнай лугавіне ішла маладая кабета ў лёгкай летняй сукенцы. Занятая сабою, яна не зьвярнула на гелікоптэр ніякае ўвагі. Затое падарожнікі літаральна прыпалі да шыбаў. Прамінуўшы кабету, прафэсар Солад моўчкі разьвярнуў машыну – такім дзівам здавалася пабачыць жывога чалавека на няжылай Чучундры! – але кабеты на лугавіне ўжо не было. Падарожнікі вырашылі, што яна ім прымроілася, але, абмеркаваўшы дэталі, пераканаліся, што бачылі тое самае.

– Я нават пасьпеў у думках даць ёй імя, – сказаў прафэсар Солад.

– Вы назвалі яе Зоя?

– Вось бачыце... Значыць, маем шанец сустрэцца зь ёй яшчэ раз, – зрабіў выснову прафэсар, і гелікоптэр мякка апусьціўся на лугавіну.

Абложны дождж, здаецца, перасьціх. Навакольле поўнілася пахамі кветак, травы, жывіцы, грыбоў і самога дажджу, што нагадала падарожнікам іхнае дзяцінства на лецішчы за горадам.

Ні мапы, ні навігатара ў іх не было, бо іх не было ў прынцыпе, і яны выра-

шылі спусьціцца ў лагчыну, за якой бялеў малады бярэзьнік.

У невысокай траве падарожнікі заўважылі сьцежку. Хто ж тут ходзіць на няжылай плянэце? Магчыма, ласі гэтым шляхам кіруюцца да вадапою.

Ніякіх ласёў яны не пабачылі, але сьцежка насамрэч вывела іх да возера.

– Тут сапраўды надзвычай утульна пачуваесься, – дзяліўся ўражаньнем доктар Заяц. – Гэтыя ўзьлескі, лугавіна, возера... Ад усяго зыходзіць дух жывога.

– Беларусы ўмелі размаўляць з прыродай, з дубровай і з возерам, з птушкамі і зьвярамі, – тлумачыў прафэсар Солад. – Але гэта было вельмі-вельмі даўно. Размова мусіла мець форму вершаў альбо песень. Нездарма яны самі сябе называлі нацыяй паэтаў. Напэўна, так яно й было. Але нам з вамі, баюся, пагаварыць з травой ці з вадой ня ўдасца. Страчаныя навыкі. Таму трэба шукаць нейкія іншыя спосабы кантакту з Чучундрай.

– Глядзіце, – выгукнуў доктар Заяц, – а гэта ўжо ня дзікая прырода!

На самым беразе возера падарожнікі ўбачылі нейкую спаруду і засьпяшаліся да яе.

***

– Гэтае прыстасаваньне называецца лябёдка, – сказаў прафэсар Солад. – Служыць для падыманьня цяжкіх рэчаў. Бачыце, гэтыя тросы, што ідуць у зямлю? Калі круціць рукавятку, нешта павінна адбыцца.

– Рызыкнем? – доктар Заяц абедзьвюма рукамі ўхапіўся за рукавятку.

– Вядома, – ухваліў прафэсар. – Нічога іншага нам не застаецца.

Лябёдка азвалася ў навакольнай стоенасьці рэзкім іржавым рыпеньнем, якое разьдзерла цішыню камэрнага краявіду. Аднак доктар далей налягаў на рукавятку ўсім целам, завяршаючы першы паварот.

Пасярод азёрнай паверхні зьявіліся тры мэталёвыя сьпічакі-сьцяжкі. На сьцяжках былі нейкія малюнкі, але праз адлегласьць разгледзець іх не было як.

– Вось гэта сапраўднае дзіва, – сказаў прафэсар Солад. – Падобна, што вы, шаноўны доктар, падымаеце з вады ці то палац, ці то замак. Хоць звычайна ў беларусаў правальваліся пад зямлю цэрквы, і пасьля на тым месцы ўзьнікала возера. Але, мяркуючы па сьпічаках, гэта не царква. Сьцяжкі ставілі на замках і палацах. І мне здаецца, што патанулыя будынкі ніколі

больш не ўсплывалі. А тут, выяўляецца, можна рукамі...

Быццам у пацьверджаньне гэтых словаў пасьля другога павароту лябёдкі над паверхняй возера паказаліся тры палацавыя вежы. Яны былі такія вялізныя, што вада сьцякала зь іх вадаспадамі, якія сваім імклівым шумам заглушылі ржавае рыпеньне лябёдкі.

Відовішча паўставаньня з возера палаца нагэтулькі зачаравала прафэсара, што ён ня мог вымавіць ані слова. Адно на ягоным твары зьявілася ўсьмешка, быццам раптам невядома адкуль грымнула на ўвесь сьвет велічная сымфонія. Тое самае адчуваў і доктар, які, аднак, не спыняў свае працы.

Пасьля пятага павароту перад падарожнікамі ўзьнік цэлы востраў пасярод возера. Палац быў аточаны паркам і высокаю каменнаю агароджаю. І ўсё гэта густа сьцякала вадою. Наастачу пачалася сапраўдная залева, якая прымусіла падарожнікаў схавацца пад намёты-плашчы.

***

– У вашым расповедзе пра Чучундру, дарагі прафэсар, – ні словам ня згад-

валася жытло – ці простыя дамы, ці такія вось палацы, нічога.

– Зразумеў вас, шаноўны доктар. Рэч у тым, што беларусы ніколі не цанілі архітэктуру, асабліва старую. Уважалася, што старое – благое, яго трэба разбураць і будаваць новае. Яны былі нацыяй зь вясковым мэнталітэтам, а ў вёсцы хто ж цэніць хату за яе старасьць. Вось жа такое стаўленьне ў іх аўтаматычна перакідвалася і на ўсю архітэктуру ўвогуле. Можна сказаць, яны яе проста ненавідзелі.

– Але жытло – адна з натуральных патрэбаў чалавека і, паводле той лёгікі, каб ён нічога не патрабаваў, трэба было скрыжаваць яго і з жытлом таксама, а ня толькі з хлебакаровай.

Прафэсар задумаўся і сказаў:

– Вы слушна кажаце. Але ў тыя часы, сто гадоў таму, перад мутацыяй улады імкнуліся пагасіць усялякія прыватніцкія настроі. Беларусы мусілі самі хацець гэтага злучэньня ўсяго з усім, і з сабой у тым ліку. А першай істотнай маёмасьцю ў людзей было менавіта іхнае жытло. Культывавалася думка, што жытло каштуе, але ня цэніцца, як і кожная ўласнасьць. Нешта мець – хутчэй ганебна, чым прэстыжна. Таму, калі надышоў час мутацыі, гэты этап – злучэньня з жытлом – было вырашана пра-

мінуць. Маўляў, усё адно мы станем адным касьмічным целам, дык нашто нам тыя будынкі... Аднак, бачыце, – палац. Нечага яны ўсё ж зруйнаваць не пасьпелі.

***

Калі дождж скончыўся, краявід асьвяціла сонца. Вялізны палац на тле багатай зеляніны лясоў і азёрнае сінечы зьзяў сваімі шыбамі і вітражамі, а рознакаляровая абніцоўка ягоных вежаў іграла ў промнях, нібы калейдаскоп. У дадатак да ўсяго па-над палацам расьцьвіла вясёлка.

– Ведаеце, дарагі прафэсар, зусім не падобна, каб гэты палац ягоныя гаспадары пакінулі сто гадоў таму, – засумняваўся доктар Заяц.

– Я вам больш скажу, – падхапіў ягоную думку прафэсар Солад, – зусім не падобна, каб ён сто гадоў прабыў на азёрным дне. І я не зьдзіўлюся, калі там віруе жыцьцё, і на падворку сноўдаюць фарсістыя конныя экіпажы мясцовае шляхты. Вядома ж, яны зьбіраюцца на баль, які можа доўжыцца дні тры, а то й тыдзень... Вось толькі як нам дастацца туды? Ані мастка, ані чаўна не відаць.

– Гэта праўда, але да палаца зусім недалёка, можам і пераплысьці.

– Думаю, гэта небясьпечна, – сказаў прафэсар. – Калі Чучундра навязала з намі лучнасьць, гэта зусім ня значыць, што намеры ў яе добрыя. Чаму, па-вашаму, яна не пакінула нам ніякага спосабу дабрацца да палаца, апроч як плывучы? А раптам я, да прыкладу, ня ўмею плаваць? Што, дарэчы, так і ёсьць.

– Прызнацца, і я не вялікі плывец, – пагадзіўся доктар Заяц. – Прапаную абысьці возера. Калі ня човен напаткаем, дык можа якую-небудзь ідэю...

І, сапраўды, каля лесу, які падступаў да самае вады, падарожнікі пабачылі брод. Плыткае месца пяшчанай стужкай цягнулася да самага вострава. Разбуўшыся, прафэсар і доктар хутка пераканаліся, што вада не даходзіць і да калена.

Неўзабаве пераход быў завершаны. Дапамагаючы адзін аднаму, яны пералезьлі цераз высокую каменную агароджу і апынуліся ў парку, якім быў абсаджаны палац.

Зь першага погляду стала зразумела, што яны патрапілі ў шпіталь. У прысадах з пафарбаванымі белай вапнай броўкамі сярод пабеленых дрэваў па адным і парамі шпацыравалі мужчыны ў аднолькавых брунатных халатах. Куп-

кі хворых за столікамі гулялі ў даміно. Сям-там можна было заўважыць і жанчын у белых мэдычных строях.

Падарожнікі рушылі да ўваходу ў палац.

***

Неспадзяванка чакала іх ужо ў доўгім калідоры на першым паверсе. Шэрагі аднолькавых дзьвярэй вялі ў лекарскія кабінэты. На першых дзьвярох на таблічцы яны прачыталі: „Прафэсар Солад“, а на кабінэце насупраць: „Доктар Заяц (Блюм)“.

– Ну проста Салярыс нейкі, – прысьвіснуў прафэсар Солад.

– Пераадоленьне множнасьці... – падумаў уголас доктар Заяц.

– З каго пачнём? – спытаўся прафэсар Солад.

– Давайце з вас, дарагі прафэсар, – азваўся доктар Заяц і пагрукаў у дзьверы.

„Калі ласка“, – пачулася з таго боку, і падарожнікі ўвайшлі ў кабінэт.

За сталом у накрухмаленым лекарскім халаце насамрэч сядзеў прафэсар Солад.

– Прафэсар Солад, – адрэкамэндаваўся ён, выходзячы з-за стала і пра-

цягваючы руку прафэсару Соладу, які, у сваю чаргу, прамармытаў тое самае.

А што ён мог зрабіць? Сказаць, што яны прыляцелі на Чучундру, каб праз гэтага прафэсара навязаць зь ёй кантакт?..

– Вы дарэмна асьцерагаецеся, – запэўніў Солад у белым халаце, – у нас не псыхіятрычная клініка, а пансіянат з высакароднай місіяй барацьбы з курэньнем! Вы, дарэчы, ня курыце?

– Не, – сказаў зьбянтэжаны Солад-падарожнік, – хіба калі вазьму чарку...

– Тыповы беларускі дыягназ, – прамовіў белы халат такім тонам, быццам наважыўся распачаць лекцыю.

– Беларусы так заклапочаныя сваім здароўем... – сказаў доктар Заяц.

– У беларусаў дзьве спрадвечныя заклапочанасьці – здароўе і родная мова, – удакладніў белы халат. – І з абедзьвюма яны ня могуць даць сабе рады – ці іх губіць, ці зьберагаць. Адныя кажуць – на халеру яно трэба. Іншыя крычаць: ратуйце!

– Але ж мы гаворым... – пачаў быў доктар Заяц.

– Гаворым, – перапыніў белы халат, – а што толку?

– І то праўда, – пагадзіўся доктар.

***

Дзьверы кабінэта расчыніліся, і да суразмоўцаў далучыўся яшчэ адзін доктар Заяц, толькі ў белым халаце.

– Новыя пацыенты? – зь цікаўнасьцю запытаўся ён у калегі прафэсара Солада.

– Бадай што, не, – адказаў той. – Сытуацыя больш складаная. Нашы госьці – alter ego, дарагі доктар. Яны цікавяцца гісторыяй Чучундры, а таксама мутацыямі.

– Вы прымаеце нас за вар'ятаў? – у адзін голас прамовілі падарожнікі.

– Мы прымаем вас за сябе. Гэтаксама, як і вы нас, – адказаў Солад у белым халаце. – І ў гэтым уся праблема.

Падарожны доктар Заяц выглядаў зусім па-дзіцячаму разгубленым. Але багаты жыцьцёвы досьвед і разьвітае крытычнае мысьленьне дазволілі яму хутка ачомацца і ён сказаў:

– Не зьдзіўлюся, калі выгляну зараз у вакно, і там па начной вуліцы праедзе тралейбус.

– Ну, вось бачыце, – сказаў ягоны цёзка, – ніякага вар'яцтва. Вуліца, тралейбус, ноч – што можа быць больш рэчаіснае?

І, сапраўды, за вокнамі ці то вечарэла, ці сьцямнела перад новай залевай.

Падарожнікі добра ведалі манеру пансіянатных лекараў пераконваць пацыентаў у тым, што ніякага вар'яцтва няма. У выніку часьцяком дасягалася адваротная мэта. Навошта? Гэта рабілася на тое, каб лекар атрымаў сатысфакцыю, пераканаўся ў тым, што сам ён – у здаровым розуме. А, можа быць, гэта ўсяго толькі моцны сродак выпрабаваць псыхіку пацыента. Калі яна надломленая, дык паддаецца паніцы, а калі не – вытрымае і гэта.

У кожным разе, падарожнікі вырашылі падыграць сваім alter ego, каб самім зарыентавацца ды нейкім чынам пакінуць гэтае месца, што здавалася ім цяпер непрытульным і чужым. Дакладней, на двух краях сьвядомасьці яно выклікала ў іх супрацьлеглыя пачуцьці. З аднаго боку, усё было чужое, зь іншага – не пакідала тое пачуцьцё абжытасьці, якое яны пражылі, яшчэ не ступіўшы на Чучундру.

***

– Нам даводзіцца рабіць неверагодныя намаганьні, каб застацца ў межах сьвядомасьці, – прызнаўся прафэсар Салад.

– А ці варта? – паблажліва запытаў-

ся ягоны цёзка ў белым халаце, па ягоных вуснах прабегла ўсьмешка. – Ці ня вы сёньня ў гелікоптэры казалі пра надуманыя самаабмежаваньні ды іх перададоленьне? Усё гэта адбывалася зь людзьмі і сто гадоў таму, а тут вы трапляеце на Чучундру, і высьвятляецца, што вы казалі пра сябе. Хіба ня так?

– Вельмі падобна. Але што з таго? Вы разважаеце так, быццам вы і ёсьць я.

– А хіба ня ў гэтым быў сэнс вашага падарожжа? І хіба ня ў гэтым сэнс усялякага падарожжа? Вось вы купілі тур у Туніс, быццам вам карціць паглядзець на бэдуінаў, але толькі – быццам. Вам хочацца ў Тунісе паглядзець на сябе.

– Мы радыя паведаміць вам, – падхапіў тон калегі Заяц у халаце, – што мэта вашага падарожжа дасягнутая.

Ён пераставіў крэслы для пацыентаў вакол стала, дастаў з шафы імбрык і сказаў:

– Дазвольце, дарагія калегі, пачаставаць вас гарбатай. Бо нам з прафэсарам насьпеў час для вечаровага агляду.

Пакуль гатаваўся кіпень, падарожнік доктар Заяц незаўважна нахіліўся і шапнуў на вуха свайму прафэсару Соладу: „Дык што ж, мы ляцелі на Чучундру, а прыляцелі да сябе ў галаву?“ Але адказаў на гэта прафэсар у белым халаце:

– Гэта і так, і ня так. Бо тое, што вы называеце сваёй галавой, займае ў нас зусім нязначнае месца. Інакш усе даўно кінулі б курыць, і патрэба ў існаваньні нашага пансіянату адпала б. Усё нашмат больш складана. Гэтаксама, як наша цела на дзевяноста адсоткаў складаецца з вады, так наша сьвядомасьць на дзевяноста адсоткаў – ня нашая. Зараз дзевяноста адсоткаў займае Чучундра – мэта вашага падарожжа. А там, як вам уяўляецца, мноства самых неверагодных рэчаў! Найдзіўнейшыя мутанты, шляхецкія палацы, якія падымаюцца з вады за пяць паваротаў, Зоя...

– Зоя?.. – у адзін голас ускрыкнулі падарожнікі.

– Вядома, Зоя, – зрабіў зьдзіўленыя вочы Солад у белым халаце. – Зоя тут увасабляе для вас усю радасьць і сэнс жыцьця.

– І для нас таксама, – сказаў Заяц у белым халаце.

– Яна вам мроіцца так рэалістычна, што вы гатовыя на месцы разьвярнуць гелікоптэр, – працягваў Солад з пансіянату.

– І мы таксама, – дадаў ягоны калега Заяц.

– І калі ўжо вам удалося занурыцца ў самыя патаемныя закуткі ўласнай сьвядомасьці (а гэта было няпроста), мы,

у сваю чаргу, падрыхтавалі для вас сюрпрыз, – абвесьціў Солад у халаце.

– Што менавіта? – выгукнуў ягоны цёзка.

– Гэта будзе ня страшна? – зь недаверам прамовіў доктар Заяц.

– Толькі не для вас, – у адзін голас запэўнілі белыя халаты і засьпяшаліся на агляд.

***

Што будзе далей? Магчымыя варыянты.

Падарожнікі выйдуць з палаца, пералезуць цераз плот, пяройдуць убрад возера, адкруцяць лябёдку на пяць паваротаў так, каб палац схаваўся пад вадой, сядуць на свой гелікоптар, яшчэ на імгненьне ім сустрэнецца Зоя, і яны палятуць назад. Праз увесь час зваротнага падарожжа яны ня скажуць адзін аднаму ні слова. А ўвечары, як і плянавалі, апынуцца кожны ў сябе дома. Найбольшы сюрпрыз падарожжа – вяртаньне. Можа быць, гэта і мелі на ўвазе іхныя alter ego з пансіянату?

Пра іншыя варыянты думалася з трывогай.

Вось тыя зараз здымуць свае халаты, і акажацца, што яны ўжо не „два-

яцца“, што Солад – гэта Солад, а Заяц – Заяц. Яно ж быццам бы так і ёсьць. Але тады перагортваецца ўсё жыцьцё, і яны застаюцца кіраваць пансіянатам з высакароднай місіяй барацьбы з курэньнем, які пэрыядычна зьнікае ў вадзе ляснога возера на Чучундры, якая – мутант. Яны зусім ня ведаюць мэханізмаў гэтага жыцьця, і ім робіцца крыху вусьцішна.

Хоць, калі падумаць, мэханізм яны якраз ведаюць. Гэта лябёдка. І ў сьветлым кабінэце велічнага палаца, дзе можна запарыць гарбату, зусім не найгоршае месца для прафэсара і для доктара.

Можа быць, ім зробяць сустрэчу з Зояй?.. А можа, пакажуць Чучундру – тую, якую сто гадоў таму намаляваў мастак Марачкін?

„Калі яны – гэта мы, значыць, мы самі можам прыдумаць гэты сюрпрыз, – разважалі падарожнікі. – Але... Але яны кажуць, што ў нас дзевяноста адсоткаў ня нас. І гэта праўда. І ў гэтым уся праблема. Выходзіць, мы можам гэтымі адсоткамі напрыдумляць для саміх сябе такія сюрпрызы, якіх ніколі і не чакалі, і не жадалі“.

***

– Вы таксама думаеце пра тыя дзевяноста адсоткаў, дарагі прафэсар? – спытаўся доктар Заяц, дапіваючы гарбату.

– Так, шаноўны доктар, – адказаў прафэсар Солад. – Гэта якраз там, у тых адсотках спаткаліся нам нашы alter ego. Мы быццам ведаем іх, але нічога ня можам ведаць пра іхныя намеры. Урэшце, калі мы й напраўду складаемся ня толькі зь сябе саміх, дык тое, кім мы ёсьць, – гэта наш уласны выбар. У нас адзін, у іх іншы. Нават у межах нас саміх. Напэўна, вельмі добра, што ў нас заўсёды застаецца магчымасьць надзець белы халат і працаваць у пансіянаце на востраве ляснога возера. Падумайце пра гэта.

– Я ўжо падумаў, дарагі прафэсар, – усьміхнуўся доктар.

– Я таксама, – упэўніў яго Солад. – Значыць, нам засталося вярнуцца. Пры гэтым ужо вечар, і зноў хвошча дождж, і мы ня ведаем, ці будзе нам шлях вяртаньня лёгкі.

Мокрыя наскрозь падарожнікі беглі ад палаца праз парк у тое месца, дзе раніцаю пералазілі цераз мур. Дождж засьціў вочы, і толькі маланкі асьятлялі ім накірунак у непрыглядназ цем-

ры. Грымоты, якія пры іншай аказіі маглі спалохаць і пасяліць у сэрцы жах, цяпер, здавалася, віталі іх радасна і пасвойску.

Яны самі зьдзіўляліся сабе – як гэта ў цемры і залеве ім чуецца штосьці падобнае да шчасьця, чаго паводле вызначэньня быць ня можа. Верагодна, гэтае пачуцьцё ўзьнікла на тое, каб выцягнуць іх з гэтае прорвы туды, дзе іхнае сваё, дзе дом. Яно выцягвала з пасткі, у якую яны патрапілі, і надавала рашучасьці ды сілаў.

Аднак парк не скончаўся і ніякага плоту наперадзе не было.

***

– Вось вам і першы сюрпрыз, – крыкнуў доктар Заяц. – Парк не сканчаецца, хоць даўно мусіў.

– Магчыма, гэта абэрацыя зроку ў дождж, – крыкнуў у адказ прафэсар Солад. – Калі мы ішлі сюды, быў сонечны дзень. Глядзіце, дрэвы сканчаюцца!

– А пад нагамі асфальт! – заўважыў доктар Заяц. – І ніякіх прыгажэнных краявідаў. Адзін голы асфальт паўсюль, куды ні кінь вокам.

Падарожнікі спыніліся і агледзелі-

ся. Перад імі, намаляваная проста на асфальце бялела вялікая лічба „12“.

– Я й не заўважыў, як мы даляцелі, – сказаў доктар Заяц.

– Я таксама, – гукнуў прафэсар Солад. – Здаецца, я разумею, куды мы патрапілі.

– На аэрадром.

– Не, шаноўны доктар, – сказаў прафэсар Солад. Мы патрапілі ў пракрутку часу. Я абавязкова напішу справаздачу з нашага падарожжа. Заўтра ўвечары вы атрымаеце ад мяне ліст.

*Але вось навальніца сканчаецца. Яшчэ чуваць далёкія фаготы і нават тубы – гэта дзесьці яна грыміць і скугоча з ранейшаю сілаю. Ад нас – усё далей, далей, далей... А тут – ціхімі стрункамі падаюць кроплі з дрэваў. Гэта скрыпкі ствараюць ілюзію кропляў, але ты чуеш ня іх, а нешта ў самім сабе і згадваеш радкі колішняй песьні:*

*Дождж прайшоў і лісьцікі гамоняць*
*Пра мае няўдачы у жыцьці,*
*Лёс мой, нібы сонца ў хмарах тоне,*
*Кроплямі сьцякае па лісьці...*

*Усё. Сьціхаюць апошнія скрыпкі. Цішыня. Слухаем цішыню. Слухаем і паступова разумеем, што гэта, насамрэч, ніякая не цішыня. Яшчэ не канец. Гэта амаль нячутны гук знаёмай нам ёнікі, якую ці то забыліся выключыць,*

*ці так задумана складальнікам музыкі. У кожным разе пляскаць у ладкі пакуль не выпадае.*

# ЭДВАРД ВАЛЬСЫНГАМ. БАЛЬ

Што падумалі пра ўцёкі Зоі Кайлюс і Зелба, мы, напэўна, не даведаемся ніколі, бо яны, як і ўсе вечныя людзі, — мёртвыя. Сама ж Зоя пра гэта нічога ня думала, бо ляцела як на крылах ад гэтай сваёй прыгоды і ад думак пра яе, быццам ад страшнага сну.

Скончыўся бярэзьнік, за ім трэба было перайсьці шашу і за лясістым узгоркам перасекчы поле. Усё сапраўды так і было, як яна сабе ўяўляла, толькі чамусьці спалохана ўскрыкнуў драч. Звыклая да неспадзяванак Зоя, калі падыходзіла да знаёмага зь дзяцінства лецішча, ужо гатовая была пабачыць там усё, што заўгодна.

Дзяўчынка-падлетак стаяла пасярод двара, і ў яе вострым позірку Зоя, толькі

дакрануўшыся да весьніцаў, прачытала цьвёрдае – „Не заходзь!“

У гэтым жыцьці мы кепска ведаем сябе наперад. Зусім іншая рэч – ведаць сябе назад. Таму Зоя адразу і пазнала, і адчула, што дзяўчынка-падлетак – гэта яна сама.

Дзесьці ў далёкай памяці яна адшукала гэты эпізод – можа быць, адзіны такі брыдкі з усіх яе згадак пра лецішча.

Яна сапраўды стаяла пасярод двара, была раньняя вясна, думалася пра сокі, што бруяцца-сьпяваюць у дрэвах – яна нават чула гэты гук. І тут да яе дайшло, што такі самы сьпеў яна чуе і ў сабе – быццам дробныя бурбалкі паветра падымаюцца ад ступняў да галавы. Гэта было невыказна радаснае пачуцьцё! Асабліва моцна ўражвала яе тое, што яна – як дрэвы, быццам адна зь іх.

І раптам за плотам зьявілася гэтая – бамжыха ў зацухленым бушлаце і з папрашайніцкім поглядам.

– Не заходзь! – крыкнула малая Зоя, але тая яшчэ хвіліну затрымалася каля весьніцаў, нібы падбірала свае папрашайніцкія словы.

Дарослая Зоя насамрэч вагалася. „Спытайся ў яе: ты – Зоя?“ – нашэптвалі на вуха гераіні ўсходняе клясыкі. „Скажы ёй: ты – гэта я!“ – настойвалі

заходніцы. „Прайдзі міма“, – падказвала ўласная існасьць.

Позірк дзяўчынкі рабіўся ўсё больш калючым, а з позірку жанчыны зьнікла просьба. Засталася адно туга. І зусім не ад прыкрага выпадку, а ад здагадкі, што і далей цябе будуць чакаць неспадзяванкі, быццам ты выпала з часу й цяпер спрабуеш вярнуцца, але ніяк не трапляеш у свой.

Зайшоўшы за шашу, Зоя скінула бушлат і нагавіцы ды засталася ў сваёй колішняй сукенцы. Але ісьці да дзяўчынкі зноў яна не схацела. Ты-старэйшы звычайна знаходзіш словы, калі да цябе завітвае ты-малы, але не наадварот.

***

Вы ўжо здагадаліся, што, прыехаўшы ў горад, Зоя не пайшла адразу ў сваю кватэру, а спынілася ў двары ды прысела на лаўку насупраць свайго пад’езду.

„Дзіўна, – думала яна, – мяне заўсёды так натхняў гэты горад, але ніколі я не магла зь ім паразумецца. Людзі, якія атачалі мяне, былі марсіянамі – мілымі і недасяжнымі. І я, пры ўсім сваім жаданьні, не магла ўявіць сябе адной зь

іх. І не магу. Дзе-небудзь у Варшаве ці Маскве ты проста зьліваесься з натоўпам. Няма праблемы. А тут, дзе ты вырасла і перажыла ўсе свае ўзрушэньні...“

– Можа быць, гэта любоў? Тое, што любіш, найлепш ведаеш, але найменш атаясамліваеш сябе зь ім?

Чалавек, які прамовіў гэтыя словы, сядзеў на другім канцы лаўкі.

– Я сказала гэта ўголас? – асьцярожна спыталася Зоя.

– Магчыма... – завагаўся незнаёмец. – Вы казалі гэта нібы з-за сьцяны. У мяне за сьцяной так гавораць суседзі. Адну зь іх, суседку, я некалькі разоў сустракаў на вуліцы. Яна падобная да вас. Толькі гадоў ёй, відаць, болей.

– Так я й думала, – адкінула рамантыку выпадковага знаёмства Зоя. – Яна жыве ў гэтым пад’езьдзе на чацьвертым паверсе...

– У яе ёсьць муж-маёр і двое дзяцей – Кай і Герда.

– І вы да яе... неабыякавы?

– Угу.

– Тады, выходзіць, і да мяне? Бо я – гэта яна, толькі шмат гадоў раней.

– Вы ўсё ж такі паміж стылістыкамі ўсходніх і заходніх гераіняў абралі заходнюю... Брава! – усклікнуў незнаёмец.

– А вы і гэта ведаеце. Мабыць, філёляг.

– Пісьменьнік. Дон Катаяма. А вы Зоя, праўда?

– Зоя-Зоя... І што, у яе насамрэч муж маёр і двое дзяцей?

– Ес, мэм, – какетаваў Дон Катаяма. – Калі зь нейкіх прычынаў вы ня хочаце завітаць да іх зараз, хадземце да мяне. Яны за сьцяной, і я запісваю іхныя гісторыі.

Зоя марудзіла з адказам – трэба было ацаніць сымпатычнасьць гэтага чалавека. Але ён быў бездакорны. Дон Катаяма нагадаў ёй знанага мастака Артура Клінава ў часы яе колішняга жыцьця. Хто ж ня пойдзе на пакліч такога чалавека!

***

Пачуць галасы ўласных дзяцей з далёкае будучыні было неверагодна. З чым можна параўнаць гэтае перажываньне? Хіба што з музыкай, калі ты ўпершыню чуеш гукі, якіх дагэтуль проста не існавала ні ў канцэртах, ні ў прыродзе, ні ў тваёй сьвядомасьці. Так бывае, калі зьяўляюцца новыя музычныя інструмэнты і нараджаюцца новыя гучаньні. Выходзіць, дзеці – гэта гукі новае музыкі.

За сьцяной, аднак, панавала ціша. І

Дон Катаяма запрасіў Зою ў летнюю кавярню, каб пазнаёміць яе са сваімі прыяцелямі.

– А ў доктара Зайца не мядзьведжая галава? – спыталася Зоя.

– Ды не, – зьдзівіўся Дон Катаяма. – Якраз ён абяцаў сёньня зрабіць нам сюрпрыз.

– Менавіта сюрпрыз! – сказаў доктар Заяц пасьля таго, як ён і прафэсар Солад пазнаёміліся з Зояй, і ўсе разам прыселі да століка з кавай. – Наш калега Эдвард Вальсынгам запрашае нас усіх на баль у гонар нашага гораду.

– Але ж аднаногі пэнсіянэр Эдвард жыве на хутары! – выгукнуў Дон Катаяма.

– Але зь якой нагоды Вы, шаноўны доктар, назвалі старога селяніна-інваліда нашым калегам? – выгукнуў прафэсар Солад.

– Але такі баль зусім не ў традыцыях насельнікаў нашага гораду! – выгукнула Зоя.

На нейкі час усе змоўклі, быццам у непаразуменьні. Насамрэч заўсёднікі кавярні працягвалі зь цікавасьцю разглядаць новую знаёмую, а яна іх.

– Я й сам гэтага не разумею, – прызнаўся доктар Заяц. – Учора, ідучы па вуліцы, я наважыўся зазірнуць пад ваш, дарагі прафэсар, камень. І знайшоў там

вось гэтую цыдулку. – Доктар Заяц дастаў з кішэні аркуш, складзены ў чатыры столкі. – Дазвольце я вам прачытаю. „Шаноўныя калегі доктар Заяц, прафэсар Солад, Дон Катаяма і Зоя! Запрашаю вас да сябе на баль у гонар нашага гораду. Эдвард Вальсынгам“.

– Цяпер усё зразумела, – сказала Зоя, – баль будзе на хутары і таму не парушыць гарадзкой традыцыі.

– Цяпер усё зразумела, – сказаў прафэсар Солад, – калі Эдвард лічыць нас калегамі, я нічога ня маю супраць.

– Цяпер усё зразумела, – сказаў Дон Катаяма. – Думаю, ніштo не перашкодзіць нам прыняць запрашэньне Эдварда і адправіцца да яго на госьці.

І, сапраўды, што магло ім перашкодзіць? Час? Але ж іхны час і быў заняты пераважна падобнымі авантурамі, падарожжамі і нечаканымі экспэрымэнтамі. Асоба Вальсынгама? Дык яны заўсёды з радасьцю пры нагодзе завітвалі да аднаногага Эдварда на ягоны хутар пад вялізным дубам адразу за гарадзкой рысай. Адлегласьць? Дык, добрыя знаўцы гораду, яны амаль не карысталіся транспартам і знаходзілі кароткі шлях. Яны ведалі, што дварамі дойдуць да хутара за гадзіну, ня больш. Таму не марудзячы ўсе чацьвёра выправіліся ў дарогу.

***

На трамвайных рэйках блішчэла сонца позьняй вясны, галубкі ў дэкоры фасадаў ляцелі на ўсход і захад, стромкія пад'ёмы і спускі ляндшафту хаваліся пад строгай геамэтрыяй вуліц і двароў, памяць, якая спрабавала зачапіцца за месца колішняга ўзрушэньня, сасьлізгвала з будынку, са сквэру, з узьбярэжжа ракі, бо на будынку даўно не было тае шыльды, у сквэры – тае лаўкі, а на ўзьбярэжжы – таго травяністага пагорку, зь якімі нітаваўся прадонны вобраз вечнага жыцьця.

Гэты стары паводле ўзросту горад цалкам зьмяняў сваё абліччa, свой стыль і свой дух на працягу пакаленьня.

– Ат, халера! – ускрыкнуў прафэсар Солад. – Зьнесьлі! Тут была прыгожая пажарная бакшта мінулага стагодзьдзя! Як можна зносіць тое, чаго не будаваў! Ды што ж ім усё не сядзіцца, герастратам гэтым!

„А, можа, вечны горад, як і вечны чалавек, – мёртвы? – думала пра сваё Зоя. – І таму наш горад з усяе моцы змагаецца са сваёй вечнасьцю, каб заставацца жывым? І тут хаваецца прычына нашай любові і нашага непаразуменьня? Марсіяне, якія засяляюць горад, якія разбураюць яго і будуюць,

робяць нам найвялікшы падарунак – горад вечна новы, жывы, і таму натхняе жыць нас саміх? Мы сварымся на іх, а яны толькі загадкава пасьміхаюцца ў адказ. Маўляў, вы ставіце нам у прыклад Рым або Парыж, а ці хацелі б вы там жыць? Пажыць – так, а жыць... Жыць вы вяртаецеся сюды. Вось пра што гаворка. Хто ня хоча зазірнуць за рысу жыцьця – каб толькі бяз шкоды для сябе і з гарантыяй вяртаньня? Вось і думайце, чаму, калі б можна было памераць любоў гараджан да свайго места, ваша аказалася б найбольшай у сьвеце...“

– Гм, – азваўся раптам Дон Катаяма, – цікавая вэрсія.

– А што, не герастраты? – працягваў прафэсар Солад.

– Я зноў падумала ўголас? – спыталася Зоя.

– Магчыма, – сказаў Дон Катаяма. – Гучала нібы з-за сьцяны, – ён зрабіў паўзу і пасьля сказаў: – Падумаўшы, ня можа пажарная бакшта стаяць вечна. А колькі яна прастаіць? Сто гадоў? Пяцьсот? Тысячу? І рана ці позна яе ўсё адно зьнясуць. І нехта абавязкова будзе абурацца, што зносяць ня тыя, хто будаваў. Але тыя й ня могуць, пакуль не пачнуць жыць вечна...

– Жыць вечна – тое самае, што памерці, – сказала Зоя.

– Чым больш жывеш, тым больш у гэтым сумняесься, – сказаў прафэсар Солад.

– А чаму б і не? – шматзначна заўважыў доктар Заяц.

***

Яны перайшлі чыгунку, за якой пачынаўся прыватны сэктар.

– Яшчэ нядаўна наш горад атачалі гэткія вось мілыя, утульныя для вока раёны, што патаналі ў квецені садоў, – працягваў сваё абурэньне прафэсар Солад. – Памятаю сябе малым у кодабе грузавіка, які ляцеў па гэтых вуліцах сярод буйнае квецені. А цяпер паглядзіце, што робіцца. На месцы дамкоў – катлаваны, хаос жалеза з бэтонам і гліняная гразь...

– Новабудоўлі, – сказаў без інтанацыі доктар Заяц.

– У „мілых раёнах“ сярод садоў заўсёды стаялі чароды цяжкіх вайсковых машын, запоўненых людзьмі ў касках, – гіранічна заўважыў Дон Катаяма і ўжо па-філязофску дадаў. – Вечная знаніца вечнага гораду. Фалянгі, кагорты, вайна...

– Гэта ўжо, мабыць, лёс такі, – сказала Зоя. – Горад вядзе сваю гісторыю ад спаленьня самога сябе ў лютай сечы.

– Як запражэш, так і паедзеш, – уставіў доктар Заяц.

Пасьля гэтага ўсе сьціхлі.

Вуліца, якой ім выпадалаісьці, была шчыльна застаўленая цяжкімі вайсковымі машынамі, зь якіх пазіралі жаўнеры ў касках.

Прафэсар Солад, доктар Заяц, Дон Катаяма і Зоя ішлі праз шыхт гэтых маўклівых позіркаў, адчуваючы, быццам ідуць не на баль, а на страшны суд – столькі нязбыўнае пустаты было ў вайсковых вачах. Сказаць што-небудзь падарожнікі ўжо й не маглі – ад боязі, бо ніколі ня ведаеш, які міжволі спрацуе рэфлекс. Такая сабе ўсеагульная затоенасьць, калі цішыня напятая, нібы струна, гатовая лопнуць.

Асабліва непрыемна было тое, што канец гэтай вуліцы і быў канцом гораду, адкуль крок ступіць да мэты іхнага падарожжа – да хутара Эдварда Вальсынгама. А машыны ўсё не сканчаліся.

Звычайна чалавек, які ідзе на баль і сутыкаецца зь нечым страшным ці непрыемным, пасьля за колькі хвілін мабілізуе сваю існасьць на станоўчае самапачуваньне. У сталых людзей нават пэўны расклад выбудоўваецца ў галаве.

Ішоў на баль і раптам пабачыў – кагосьці зьбіла машына, і вакол мітусіцца дарожны патруль. Маеш яшчэ трыста мэтраў да мэты, каб унутрана пераналадзіцца.

У нашых падарожнікаў трохсот мэтраў не было.

Машыны стаялі да самага хутару.

***

„Што далей, што далей будзе з нашымі героямі? – Зоі раптам згадаўся цыркавы канфэрансье зь яе колішняга сну. Толькі гэтым разам ён крычаў у залю іншыя словы:

– Яны прыйшлі на баль! Вы думаеце, што зараз штукар выцягне са свайго цыліндра за вушкі іх усіх аднаго за адным проста на арэну?

– Га-га-га... – крычаў у адказ цыркавы натоўп шырока разяўленымі ратамі.

– Але вы памыляецеся! – урачыста сказаў канфэрансье, і аркестра чамусьці грымнула „туш“. – Нашы героі ідуць да Эдварда Вальсынгама! Яны ўжо зусім блізка! Яны ўжо адчыняюць дзьверы! Яны ўжо заходзяць у сьвятліцу!

– Га-га-га-га-га... – у шалёным прад-

чуваньні зароў з новай сілаю цыркавы натоўп“.

Пры стале ў сьвятліцы сядзелі прафэсар Солад, доктар Заяц, Дон Катаяма і Зоя. На чале застольля месьціўся Эдвард Вальсынгам.

– Як? Мы? Ужо? Прыйшлі? – зьдзівіўся Дон Катаяма.

– Знаёмая гісторыя, – сказала Зоя.

– Чучундра, – зь веданьнем справы канстатаваў прафэсар Солад.

– Калі мы ўжо прыйшлі, дык навошта нам рабіць гэта другі раз? – спытаўся доктар Заяц.

Эдвард Вальсынгам выйшаў насустрач гасьцям, кульгаючы на сваім пратэзе, і па-гаспадарску прамовіў:

– Шчыра вітаю дарагіх калег на нашым балі! Насамрэч усе гэтыя людзі – ня вы, яны толькі надзелі вашыя маскі, каб прывітаць вас.

– Вітаем! Вітаем! – у адзін голас гукнулі тыя, што пры стале.

– Ах! – уздыхнулі ў адзін уздых госьці.

– Але навошта вакол так шмат войска? – спытаўся Дон Катаяма.

– А што такога? – зьдзівіўся Эдвард. – Яны дапамогуць вам ажыцьцявіць ваш выбар.

– Які наш выбар? – разам спыталіся госьці.

– Гэта мы зараз і даведаемся, – адказаў Эдвард. – На нашым балі-карнавалі існуе адмысловы традыцыйны рытуал. Кожны надзяе маску таго, чыё імя напісанае на сакрэтнай цыдулцы.

Гаспадар паклыпаў да стала і ўзяў зь яго чорны капялюш-цыліндар.

– Тут ляжаць лёсы, і кожны з вас выцягне свой.

Госьці прыціхлі, пасьля пачалі пасоўвацца назад, да дзьвярэй. Але дзьверы былі зачыненыя.

– Чаго вы раптам так спалохаліся? – найграна зьдзівіўся Эдвард. Ягоныя вочы глядзелі ў розныя бакі. – Лёс, гэта ж ня страшна. Гэта ж тое, што мусіць быць.

– Я не хачу, каб мой лёс вяршыўся з дапамогай войска, – рашуча сказаў Дон Катаяма.

– Я не хачу ўдзельнічаць у такім сумным балі, – рашуча сказала Зоя.

– Я не хачу цягнуць ніякіх цыдулак, – рашуча сказаў прафэсар Солад.

– І я таксама, – пацьвердзіў доктар Заяц.

***

Эдвард Вальсынгам стаяў пасярод сьвятліцы з цыліндрам у руках і раз-

гублена пазіраў то на гасьцей, то на тых, што пры стале.

– Мы выцягнем цыдулкі замест вас, – разам прамовілі тыя, што пры стале.

– Правільна! – узрадаваўся Эдвард. – Яны ж гэта й ёсьць вы на нашым балі-карнавалі. Дык урачыстасьць пачынаецца!

Аднекуль загучала сымфанічная музыка з далёкай трывожнай нотай, і шыбы афарбаваліся ў колер мякка-ружовага сонца. Толькі цяпер госьці заўважылі, што шыбы літаральна залепленыя тварамі ў касках. Але ў вачох жаўнераў не было цікаўнасьці, адно – бяздумная пустата.

Тым часам прафэсар Солад, які сядзеў пры стале, першы выцягнуў з цыліндра цыдулку і перадаў яе Эдварду. Той урачыста абвесьціў:

– Прафэсар Солад! На нашым балі з гэтага моманту вы – жаўнер-шараговец, ахоўнік вайсковага стрэльбішча Кайлюс!

– Я ніколі ня меў ніякага дачыненьня да войска, – прамармытаў прафэсар Солад. Але Эдвард не зьвярнуў увагі на ягоныя словы і чытаў чарговую цыдулку, якую выцягнула з цыліндра маска доктара Зайца:

– Доктар Заяц! Вы цяпер – доктар Блюм! І ў вас павінна быць драўляная

мядзьведжая галава, пакрытая чорным бляскам!

– Асаблівы дзякуй за бляск, – прамармытаў доктар Заяц.

– Дон Катаяма! – чытаў Эдвард. – Вы таксама ахоўнік стрэльбішча і жаўнер, напарнік Кайлюса, і завуць вас Зелба!

– Зелба-белба, – перадражніў Дон Катаяма.

– Зоя! – абвесьціў Эдвард. На хвілю ўсе прыціхлі. – Русалка!

– Стоп-стоп-стоп! – цьвёрда сказала Зоя. Я ўжо была. Нядаўна. Русалкай. Патрабую перагляду! Напэўна, вы, Эдвард, нешта пераблыталі.

***

Голас Зоі быў настолькі рашучы, што не пакідаў месца для сумневаў. Ад гэтага разгубіліся ня толькі Эдвард і тыя, што пры стале, але й спадарожнікі Зоі таксама. Праўда, апошнія хутка ўзялі сябе ў рукі, бо, па-першае, яны былі на баку Зоі, а па-другое, у гэтай безвыходнай сытуацыі для іх раптам блiснула надзея.

– Была? – зьбянтэжана спытаўся Эдвард у тых, што пры стале.

– Была! – у адзін голас пацьвердзілі яны.

Зоя шматзначна паглядзела на Дона Катаяму.

– І мне здаецца, – сказаў той, – што некалі я ўжо апісваў ахоўніка вайсковага стрэльбішча, якога звалі Зелба, а гэта значыць, паводле законаў пісьменьніцтва, мусіў пераўвасобіцца ў яго. Жартам я называў свайго героя „Зелбабелба“.

– А я зусім нядаўна сьніў сябе зь мядзьведжаю галавою, – сказаў доктар Заяц. – У тым сьне ўсе зьвярталіся да мяне – доктар Блюм. Я хадзіў з кульбай і проста жахаў усю лякарню сваімі страшнымі сіпучымі крыкамі: „Экш! Экш!“

Ён сказаў гэта настолькі шчыра, што ўсе прысутныя схамянуліся, а тыя, што пры стале, скурчыліся, быццам хочучы залезьці пад стол.

– І ў мяне такое адчуваньне, што ў колішнім жыцьці я быў Кайлюсам, – сказаў прафэсар Солад.

Прафэсар яўна блефаваў, таму да застольнікаў вярнуўся іхны наступальны настрой.

– Чым дакажаце? – абрынуўся на прафэсара ягоны двайнік.

– Ну, там былі яшчэ ласі ўсялякія, – няўпэўнена прамовіў прафэсар Солад.

– Гэта праўда? – спытаўся Эдвард у масці.

– Праўда, – уздыхнулі за сталом.

– Напэўна, – сказаў разгублены Эдвард, – я пераблытаў цыліндры. Бо калі баль паўтараецца такі самы, якое ж гэта сьвята...

***

Эдвард Вальсынгам быў чалавек сумленны і шчыры. І свой баль ён ладзіў зь непасрэдным, амаль што дзіцячым жаданьнем па-добраму зьдзівіць, узрадаваць і нават ашчасьлівіць сваіх гасьцей. Ягоная фантазія нарадзіла неверагодны сцэнар, які мусіў даастачы захапіць усіх прысутных. Але сьвет бывае неласкавы да нашых найлепшых парываньняў, ён можа ў самы нечаканы момант абламіць сцэнар ды ператварыць белае і радаснае ў чорнае і змрочнае.

Чалавеку прагматычнаму ці чэрстваму такі аблом падаецца нязначным. Іншых, наадварот, няўдачы стымулююць да таго, каб, не зважаючы на іх, рушыць наперад. Але Эдварду Вальсынгаму, зь ягонай дзіцячай душой, няўдача здавалася цалкавітым крахам усяго ягонага жыцьця. Ён нават не пытаў у сябе „Што цяпер рабіць?“, бо рабіць

ужо не было чаго і пытаньне ня мела сэнсу.

Некалькі хвілінаў ён стаяў у задуменьні, пасьля павольна вярнуўся на сваё месца за сталом і вінавата прамовіў:

– Ну што ж, калегі. Мабыць, і праўда, выйшла накладка. Мне нічога не застаецца, як папрасіць прабачэньня ў вас усіх...

– Што вы! – узрадавана прамовілі госьці. – Мы ні пра што не шкадуем!

Сьціхла музыка, згасла сонца ў шыбах, і жаўнерскія твары таксама зьніклі.

Шчоўкнуў замок у дзьвярох.

– Іншым разам, дарагія калегі, я запрашу вас на новы баль, яшчэ больш велічны, чым той, які меўся быць сёньня. Толькі ні ў якім разе не адмаўляйцеся!

– Дзякуй, дзякуй, мы абавязкова прыйдзем! – ускрыкнуў доктар Заяц.

Госьці пакінулі Эдвардаў хутар і выправіліся ў зваротны шлях.

***

На горад наплывала шарая гадзіна. З прыватнага сэктару зьнікла вайсковая тэхніка. І будаўнічых катлаванаў не было відаць.

– Чаму вы паабяцалі прыйсьці на

экзэкуцыю, якую ён называе балем? – спытаўся прафэсар Солад у доктара Зайца.

– Для літаратуры гэта хутчэй тыпова, калі баль ператвараецца ў экзэкуцыю, – уставіў Дон Катаяма.

– Бо гэта будзе іншым разам і, магчыма, у іншым жыцьці, – адказаў доктар Заяц. – Чалавеку ўласьціва забываць гісторыю з кепскім канцом, і тады ён ізноў пападаецца на прынаду. А таму ўсё заўсёды і паўтараецца.

– Магчыма, вы падумалі, што наступным разам атрымаецца сапраўдны баль, – сказала Зоя. – Здаецца, ніхто з нас не ўважае Эдварда Вальсынгама за кепскага чалавека. Урэшце, ён мог нас і не адпусьціць...

***

На месцы зьнесенай пажарнай бакшты падарожнікі пабачылі тую самую бакшту.

– Што гэта значыць? – абурыўся прафэсар Солад.

– Вашаму абурэньню не дагодзіш, прафэсар, – заўважыў Дон Катаяма.

– Падман зроку, – сказаў доктар Заяц.

– Магчыма, гэта азначае, што я,

урэшце, вярнулася ў свой час, – прамовіла Зоя.

– Тады маем шанец пазнаёміцца да таго, як вы станеце маёравай жонкай і народзіце дваіх дзяцей, – пачаў флірт Дон Катаяма, але раптам задумаўся. – Чакайце, але што ж гэта? І мы таксама вяртаемся ў ваш час?

– Хочаце сказаць, што ў маім часе вы не жывяце ў мяне за сьцяною, і таму вам давядзецца вяртацца на ранейшы адрас? – пытаньнем на пытаньне адказала Зоя.

– Насамрэч структура прыватнага часу не настолькі вывучаная, каб мы маглі нешта казаць напэўна, – разважаў прафэсар Солад. – Кожны час можа мець сваё месца на зямлі і свой тэмп. Ці могуць розныя часы спалучацца, ці не – загадка.

Ідучы да цэнтру, яны то тут, то там заўважалі нейкія нязначныя перамены ў абліччы гораду. Быццам горад у сваім жыцьці зрабіў паўкроку назад. І дзіва, што іх гэта радавала, натхняла, забаўляла, але ані разу не засмуціла. Іхны супольны настрой быў бясхмарны і лагодны, нібы ў юнацтве.

Калі неба над горадам стала зусім цёмным, доктар Заяц раптам спыніўся і спытаў:

– Гэта ваш камень, шаноўны прафэсар?

Прафэсар Солад дзеля жарту падняў кавалак броўкі.

– Мой!

Пад каменем бялееў аркуш, складзены ў чатыры столкі. Прафэсар прачытаў цыдулку і задумаўся. Астатнія нецярпліва накінуліся на яго: што, што там напісана, ад каго цыдулка?

– Гэта Эдвард Вальсынгам, – прамовіў прафэсар Солад. – Ён дзякуе нам усім за ўдзел у балі. Піша, што на большае ён ня мог і разьлічваць... – Прафэсар на імгненьне зрабіў паўзу. – Гэта значыць, што баль – адбыўся?

– Як адбыўся? – выгукнуў Дон Катаяма.

– Чаму адбыўся? – выгукнуў доктар Заяц.

Толькі Зоя не прамовіла ні слова. Ёй здалося, што зноў недзе спалохана крыкнуў драч.

*Чакайце! Але ж гэта й ня ёніка! Гэта нехта сьвішча! Сапраўды, нехта імітуе птушыныя сьпевы.*

*Сьвістаць і насьвістваць любяць усе, нават тыя бяз голасу і слыху – яны нават не задумляюцца пра гэта. Таму сьвіст – самая дасяжная і народная музыка. Сьвістаць нельга толькі дома, бо абавязкова нехта зробіць заўвагу: „Не сьвішчы, а то грошай ня будзе!“ Дзіўны забабон. А калі нехта сьвішча са сцэны, дык тады грошай ня будзе ва ўсіх слухачоў?*

*А вось ужо сьвіст падхапіла флейта, ён стаў гучаць зусім па-іншаму, „культурна“. А калі яго пераняў клярнэт, дык у ім зьявілася яшчэ й нейкая высакароднасьць. Праўда, клярнэт – франт, ён толькі выглядае такім сабе фацэтам у фраку, насамрэч ён гульлівы і фрывольны. Яму падабаюцца сынкопы, ён падскоквае на іх, як танцор у польцы, ён разгойдвае прастору і за-*

*водзіць усіх астатніх. І ўсе астатнія паддаюцца і таксама зрываюцца на танец. Асабліва скрыпкі ўсёй сваёй навалай, быццам забыліся пра сваю нядаўнюю жалобу, скачуць спорнай гурбою. Ну, цяпер ужо ня ўстоіць на месцы ніхто. Нават трамбоны, як ім ні цяжка соўгаць сюды-туды гэтыя няўклюдныя кулісы…*

# САМАГУБСТВА.
# КАЗКА ТУМАНУ

Калі брат і сястра Кай і Герда ўступілі ў пару юнацтва, яны надумалі сысьці з жыцьця. Дакладней, яны ўжо ведалі пра падлеткавую цягу да суіцыду і хацелі выпрабаваць свае ўласныя пачуцьці.

– Як думаеш, чаму засіліўся Радзюк? – спытаўся Кай.

– Дык не паступіў у мэдычны і засіліўся, – адказала Герда.

– Гэта я ведаю. Але паступіў – не паступіў... Такіх сотні, нават мільёны. І ня вешаюцца.

„Радзюк“ – набраў Дон Катаяма ў сеціўнай шукалцы. Інфармацыя адразу знайшлася на форумах. Пісалі, што выпускнік школы Радзюк павесіўся на дрэве на гарадзкіх могілках пасьля таго, як не паступіў у мэдычны інстытут.

– Уся школа шуміць, што праз гэта... – сказала Герда. – А вось ты мог бы?

– Што? Засіліцца? Ня ведаю, не спрабаваў. Трэба прыкласьці ягоны ўчынак да сябе і паглядзець. Проста мы адчуваем, што мы сьмяротныя, разумееш? Мы ж ня тое, што дарослыя. Мы яшчэ памятаем, што нараджаліся ў пакутах. Дарослыя проста забыліся пра гэта. І калі мы сьмяротныя, дык і сыходзіць будзем праз тыя самыя дзьверы – праз пакуты.

„Memento mori“ прыдумалі дзеці, – запісаў Дон Катаяма.

– І праз гэта ўсё робіцца так пагана, што ідзеш і накладваеш на сябе рукі, – давершыў Кай.

– Большасьць не накладвае, – сказала Герда. – Але нейкая праўда ў гэтым ёсьць.

***

Большасьць жыве так, быццам жыцьцё ніколі ня скончыцца. Гэта значыць, што большасьць жыве – „быццам“? – зьдзівіўся, запісваючы, Дон Катаяма. – Не сапраўды жыве, а як бы гуляецца. Як дзеці. А насамрэч жывуць толькі дзеці.

– Мне так хочацца паглядзець на тое дрэва! – уздыхнула Герда.

– А што прасьцей, гэта ж побач, – адказаў ёй брат, – хадзем.

Яшчэ не занатаваўшы гэты яго адказ, Дон Катаяма ўжо апранаў на сябе плашч.

З суседніх пад’ездаў яны выйшлі адначасова, але не пабачыліся і пабачыцца не маглі. Вялізны двор патанаў у густым тумане. Ня можна было ўгледзець уласнай выцягнутай рукі. Пісьменьніку спрыяла тая акалічнасьць, што дзеці размаўлялі міжсобку, а значыць, можна было ісьці за імі і заставацца незаўважаным.

– Я спэцыяльна сёньня ў сеціве глядзела прычыны падлеткавага суіцыду, – казала Герда. – Там пішуць пра сямейныя праблемы ды ўсё такое. Але гэта лухта. Бо я ведаю маму Радзюка. Гэта вельмі прыстойныя людзі. Такія, як мы. І школа ў нас нармальная. І часы цяпер не такія ўжо кепскія.

– Да, – скапіяваў Кай бацьку. – Усё так добра, што далей няма куды. Памойму, дык проста ніхто нічога ў гэтым не разумее.

Дон Катаяма прымудраўся ня толькі захоўваць дыстанцыю ды запісваць усё, што кажуць дзеці, але й натаваць свае ўражаньні і цытаты. У гэтым месцы (а

яны якраз выйшлі з двара) ён занатаваў з памяці верш паэта Мінкіна:

Божа, ад пунь і ад хат
цягне такою жальбой,
Што застаецца няшмат,
Каб не пакончыць з сабой.

„Няшмат, але нешта застаецца“, – запісаў Дон Катаяма.

***

Дарогу да гарадзкіх могілак ведалі ўсе. Трэба было перайсьці тры ці чатыры вуліцы, тры ці чатыры гарадзкія двары, тры ці чатыры новабудоўлі, што хаваліся ў тумане.

– Я таксама глядзеў гэта ў сеціве, – сказаў Кай. – Але ў гэтых разумнікаў проста няма адказу, чаму мы гэтак робім.

– Мы? – найграна зьдзівілася Герда.

– Мы. А што, табе ніколі не хацелася?

– А чаму, ты думаеш, мяне так цягне да Радзюковага дрэва?

– А ты падумала, як мы знойдзем менавіта тое дрэва?

– Дык у тым і рэч, што гэта ня важ-

на, – зрабіла хітрыя вочкі Герда. – Дрэва і дрэва.

„Пайсьці і не вярнуцца“ – запісаў Дон Катаяма. Ён і не заўважыў, як яны апынуліся на могілках сярод магутных камлёў старых дрэваў і помнікаў, як ён страціў пільнасьць і аказалася, што падлеткі стаяць проста перад ім. Быццам патрабуючы нейкага адказу. Што ж, адказваць дык адказваць, і пісьменьнік сабраўся з думкамі.

– Падлеткі апынаюцца перад бясконцасьцю цэлага жыцьця, – сказаў ён. – Гэта страшна.

– І вы такое адчувалі? – у адзін голас спыталіся Кай і Герда.

– Ня памятаю, але мяркую, што рэч у духу. Калі ён пакідае цела, застаецца труп. Спакусьліва адстараніцца ад уласнага духу. Часам я, здаецца, і сапраўды страчваў яго. Але інстынкт самазахаваньня змушаў мяне падцягваць яго да сябе. І гэта была воля. Спакуса адстараніцца ад уласнага духу – гэта прага быць самім сабой. Бо дух – гэта ўсё ж нешта чужароднае. Прынамсі, гэта ня мой і толькі мой твор, а твор з суаўтарамі (літаратура, сям’я, гісторыя ды іншае). Я не магу быць абсалютна самім сабою. Я не магу быць абсалютным…

***

Раптам усе ўзьнялі вочы на вялізнае дрэва над імі. З бліжэйшага сука да іх зьвісала абарваная вяроўка.

– Вы пра гэта думаеце, а людзі вешаюцца, – заплакала Герда, тыцнуўшы пальцам угару.

– Ня варта сьлёзаў. Гэта ж проста шлях, дарога, і мы ідзем, – падбіраў словы Дон Катаяма. – Чалавек усё жыцьцё шукае адказу, навошта жыве. У падлеткавым веку гэтае пытаньне паўстае рубам. Тады й вызначаецца, ці вартае жыцьцё таго, каб быць пражытым, ці не, як казаў Камю. Старэйшыя радуюцца кожнаму дню, кожнай хвіліне. Але што гэта? І навошта?

– Мы ўсе ў гэтым жыцьці крыху чужыя, – пагадзілася Герда. – Гэта і адчуваюць падлеткі. Але ці значыць гэта, што ёсьць нейкае іншае жыцьцё? Дзе мы былі б „цалкам свае“? Можа быць, нічога такога, свайго і нямашака? І тады жаданьне падлеткаў апраўданае?

Праўду кажучы, ні пра якое ўласнае самагубства Кай і Герда ня думалі. Проста жыцьцё паставіла іх перад такімі пытаньнямі, адказаў на якія яны не знаходзілі. Ну нейкі тупік, і ўсё тут.

– Мы як бы на траціну ёсьць „мы

самі“, яшчэ на трацiну – прадукт грамадзтва, яшчэ на трацiну – увогуле невядома хто, – разважала Герда. – I калi накладзеш на сябе рукi – дык гэта на каго? На каторую частку? Цi, можа, на ўсе адразу?

– Ну, грамадзтва безь цябе дакладна ня зьнiкне, – сказаў Кай.

Яму вiдавочна ўжо надакучылi гэтыя пустапарожнiя размовы i хацелася дзейнiчаць. Ён спаважнеў, склаў рукi на грудзях i ў паставе Шэрлака Холмса прамовiў:

– Я мяркую, што Радзюк мусiў пакiнуць па сабе нейкi знак. Трэба агледзець месца. – Кай схiлiўся над помнiкам. – Так, што мы маем? Вяроўка зьвiсае над магiлай нейкага Барсукова.

Герда тым часам разглядала Дона Катаяму.

– Вы жывяце ў суседнiм пад’езьдзе, – сказала яна.

– Так. Маё iмя Дон Катаяма.

Гердзiны вочы акруглiлiся.

– А, гэта вы прыдумалi „чалавека без галавы“!

– У пэўным сэнсе.

Туман па-ранейшаму хаваў у сабе навакольле. Вiдаць было за тры крокi, ня больш.

***

– Знайшоў! – крыкнуў Кай. Ён стаяў за помнікам Барсукова і паказваў на адваротны бок пліты.

Дон Катаяма і Герда кінуліся да Кая.

– Глядзіце, тут нешта напісана маркерам! І подпіс стаіць: „Радзюк“. Чытайце.

Усе хорам пачалі прамаўляць намаляваныя на помніку словы:

„Дарма вы прыйшлі сюды шукаць мяне, думаючы, што я засіліўся на могілках“.

Усе пераглянуліся.

„Сьмерць, казаў адзін філёзаф, гэта працяг жыцьця. А засіліцца, вены парэзаць ды ўсё такое іншае азначае толькі – проста спыніць існаваньне біялягічнай адзінкі, вось і ўсё. Як пеўня засячы. Тут ніякага працягу няма“.

– Дык ён не забіўся? – спытаў Кай.

– Дык ён не забіўся? – паўтарыла Герда.

– Чытайма далей, – сказаў Дон Катаяма.

„Сьмерць – гэта калі ты ідзеш да ракі, сядаеш у човен і плывеш невядома куды“.

– Ён проста паплыў... – сказала Герда.

– І мы можам дагнаць яго! – сказаў Кай. – Нам трэба сьпяшацца на лодачную станцыю!

Такі паварот зьбіў Дона Катаяму з тропу. Ён уявіў сабе, як яны ўтраіх у густым тумане плывуць па рацэ наўздагон Радзюка, які засіліўся. Аднак ён, як дарослы, адчуваў адказнасьць за суседзкіх дзяцей і паспрабаваў адгаварыць іх ад такой прыгоды:

– Але ў горадзе няма лодачнай станцыі.

Усе задумаліся.

– Чакайце, – крыкнуў Кай, – мы зробім плыт!

– Але гарадзкія берагі такія вылізаныя, што мы ня знойдзем матэрыялу, – засумняваўся Дон Катаяма.

Усе зноў задумаліся.

– Чакайце, – зноў крыкнуў Кай, – у нас дома ёсьць бацькава надзіманка. Ён бярэ яе, калі едзе на рыбу. Яна двухмясцовая, але ж мы з Гердай – як адзін дарослы чалавек.

***

– А што вы думаеце пра вечнае жыцьцё, Дон Катаяма? – спыталася Герда, калі яны вярталіся дахаты па надзіманку.

– Выглядае, што яго прыдумалі дарослыя.

– А так яно не існуе?

– Ну калі прыдумалі, значыць існуе. Вось вы седзіце ў сеціве, а яшчэ пакаленьне таму ніякага сеціва не было. Дарослыя таксама нешта могуць. Вашыя прадзеды жылі паўсотні гадоў, а цяперашнія дажываюць да ста. Можа быць, вы ўжо будзеце жыць паўтараста. І гэтак далей. Ясна ж, да чаго гэта ўсё ідзе.

Дзеці задумаліся. І першы сказаў Кай:

– Але ж усё адно сыходзіць давядзецца ў пакутах.

– Наша бабуля казала, што пры канцы жыць нецікава, – прамовіла Герда. – А ёй было семдзесят гадоў. І калі б ёй жыць паўтараста, яна б з глузду зьехала.

На гэты раз задумаўся пісьменьнік Дон Катаяма. Ён раптам адчуў сябе на сустрэчы з чытачамі, калі ніяк нельга было даць пудла. Тады невядомая хваля падхоплівала яго і выносіла з самых складаных сытуацыяў.

– Я нездарма казаў вам пра сеціва. Вы жывяце ў ім, як у паралельнай рэчаіснасьці. Але гэта ўсяго толькі вынаходка. І такіх вынаходак будзе ўсё больш і больш. Напрыклад, тэлепартацыя. Заўтра вы лёгка зможаце тэлепартавацца. Куды хочаце і калі захочаце. Можа быць, вы захочаце тэлепартавацца ва

ўласныя мары. Калі ласка. Цялеснасьць ня будзе мець такога істотнага, як цяпер, значэньня.

Дзеці зьдзіўлена пазіралі на свайго суседа. Шанец перасяліцца ў мары падабаўся і Каю, і Гердзе. Пагатоў такая пэрспэктыва ў вуснах Дона Катаямы гучала цалкам праўдападобна.

– Ці ў вас ёсьць мары? – спытаўся Дон Катаяма.

– Звычайна пра такое ня кажуць, – апусьціла вочы Герда.

– Калі ў цябе ёсьць мара, ты ніколі не падумаеш пра самагубства, – дадаў Кай.

***

Надзіманка была аднамясцовая.

Калі на беразе гарадзкога парку ўсе сяк-так разьмясьціліся ў ёй, аказалася, што вада ценькім цуркам раз-пораз перацякае цераз край.

На шчасьце, у камплекце надзіманкі знайшлася чарка, і Герда, пакуль мужчыны веславалі, зьбірала ёю ваду з дна.

Але галоўная перашкода была ня ў гэтым. Туман па-над вадой быў яшчэ гусьцейшы, чым на беразе, і не пакідаў падарожнікам аніякае магчымасьці зарыентавацца. Веславаць яны пастанавілі

супраць плыні і ўвесь час тыцкаліся то ў правы, то ў левы бераг нешырокай гарадзкой рэчкі. Ніцыя вербы зьвісалі зь берагоў да самай вады, і трэба было раз-пораз выблытвацца зь іхных доўгіх косаў.

Аднак вандроўнікі не гублялі рашучасьці. Можа быць таму, што яны былі ў сутнасьці яшчэ дзецьмі. І толькі Дон Катаяма разважаў сабе, што такім чынам не вандруюць у вечнасьць, нават калі яна – сьмерць. Занадта шмат у іхным падарожжы было жыцьцёвае мітусьні.

***

Можна, вядома, памерці і сьмешна. Праўда, гэта – толькі від збоку. Для таго, хто выпраўляецца ў падарожжа, усё мусіць выглядаць цалкам сур’ёзна. Не бывае сьмешных хаўтураў, калі гэта ня жарт. І калі труна плыве на плячох працэсіі, ніхто не заліваецца ад сьмеху, як у кінакамэдыях, калі хтосьці камусьці даў падсрачніка.

Рэчка наша зусім плыткая. І калі б мы ў надзіманцы зрабілі овэркіль, што значыць, перакуліліся, дык стаялі б па калена ў вадзе, а публіка на беразе качалася б ад сьмеху. І канечне сярод

публікі знайшоўся б нехта, хто б крычаў:

– Глядзеце, глядзеце! Двое дзяцей і адзін вялікі дзядзька! Вы ведаеце, ён іхны сусед! – Тут сьмех бы выбухнуў з новаю сілаю, бо сусед – вядомы герой показак. Але што яшчэ будзе!

– Гэты дарослы дзядзька, – крычаў іншы рот, – закаханы ў матку гэтых дзяцей! – І публіка проста легла ад рогату, а з вачэй яе пырснулі сьлёзы. – Ня можа быць на сьвеце больш недарэчнага каханьня.

Пасьля гэтых словаў сьмех раптам зьнік, а Дон Катаяма зразумеў, што бачыць абодва берагі. Туман пачынаў разьвейвацца. Ніцыя вербы прамалёўваліся ўсёй сваёй агромністай каронай. Навокал, куды ні глянь, плавалі гарадзкія качкі, а на берагох не было нікога.

***

Калісьці ў дзяцінстве, тады яму было гадоў пяць, Дон Катаяма знайшоў за бабіным падворкам дохлага голуба. Голуб быў зусім цэлы, шызы навец. Відавочна, ён толькі што сканаў ці то ад старасьці, ці ад якой атруты. Гэта цяпер так падавалася Дону Катаяму. А тады ён, ня думаючы, ліхаманкава ад-

сунуў сваю знаходку глыбей пад куст. І нават ня ў голубе тут была рэч, а ў сьмерці.

– У сьмерці? – зьдзівіліся ў адзін голас Кай і Герда.

– Так. Памятаеце, мы гаварылі пра прыход і сыход, якія адбываюцца ў пакутах? Маўляў, дзіця яшчэ адчувае, як яно прыйшло, празь якія дзьверы. У далейшым жыцьці гэтае адчуваньне разьвейваецца.

Дык вось, што здарылася з тым голубам, я не разумеў, але штосьці ўва мне здагадвалася, што мне ў рукі трапілася сьмерць і я авалодаў ёю, узяў яе ў палон.

У дзедавай пуні я памятаў невялічкую старую валізку. Такія тады называліся «баннымі». Я зьлётаў туды-назад і склаў свайго голуба ў валізку. Я яго схаваў. Прысвойтаў і схаваў сьмерць. Яна была мая.

– А навошта нам гэта ведаць? – спытаўся Кай.

– На тое, што мы цяпер, здаецца, займаемся тым самым, – сказаў Дон Катаяма. – Мы спрабуем дагнаць сьмерць. І зусім не на тое, каб памерці, а каб авалодаць ёю, скласьці яе ў сваю валізку.

– Глядзіце, глядзіце, туман разьвеяўся! – крыкнула Герда. – І наперадзе шмат чаўноў.

***

Сапраўды, у акваторыі ракі зьявілася мноства чаўноў і рознакаляровых катамаранаў. Быццам настала нейкае сьвята і публіка ў парку адпачывала на вадзе. Усе веславалі, круцілі пэдалі, кармілі качак ды пра нешта міжсобку бестурботна размаўлялі.

– Вунь, гляньце, – гукнула Герда, – на сінім чаўне Радзюк. Я пазнала яго!

– За ім! – крыкнуў Кай.

У надзіманцы было поўна вады, але падарожнікі зусім не зважалі на гэта.

Як ні рупіліся яны дагнаць Радзюка, але ён і ўся іншая публіка на вадзе неяк мэлянхалічна аддаляліся ад іх. Тым часам яны няўхільна падплывалі да галоўнага гарадзкога вадаспаду.

– Мы прыцісьнем яго да сьценкі! – сказаў Кай.

– Навошта? – спыталася Герда.

Але інстынкт паляўнічых захапіў усіх, нават Дона Катаяму.

Дзіўна было тое, што яны гналі на ўсіх абаротах, а Радзюк так сабе абыякава памахваў вяслом.

Калі ж яны наблізіліся да шумнапеннага вадаспаду, дык пабачылі, што Радзюк і ўся ягоная кампанія ўжо наверсе – у верхняй вадзе.

***

Наверсе рака шматкроць пашыралася і быццам рассоўвала сабою гарадзкі краявід.

Кай, Герда і Дон Катаяма хуценька прысталі да берага і перанесьлі сваю надзіманку ў верхнюю ваду, зноў паселі ў яе і зноў адплылі.

– Глядзіце, ён зусім блізка, – сказаў Кай. – Цяпер ужо і я пазнаў яго. Гэта Радзюк!

– Але ж мы стаім на месцы, – заўважыў Дон Катаяма, які веславаў штомоцы.

– Мне здаецца, нас зносіць у вадаспад, – занэрвавалася Герда.

Мэлянхалічны Радзюк і ўся астатняя публіка на вадзе тым часам аддаляліся ад надзіманкі.

– Доне Катаяма, гарніце мацней, – узмаліўся Кай.

– Дык гарну ж. Проста плынь тут такая моцная, што нас немінуча зносіць назад, – адказаў Дон Катаяма. Слова «назад» змусіла яго задумацца. Калі глядзець на плынь ракі, іх несла акурат наперад. Як тут даць рады?

– І глыбіня тут яўна не па каленку, – сказала Герда.

– Вяслуйма да берага! – скамандаваў Дон Катаяма.

Адчувалася, што страшна ўсім. І весьляры павярнулі ў бок парку.

***

– Вы, пэўна, маршрут пераблыталі, – заўважыў аднаногі чалавек, які стаяў на мосьце над вадаспадам. – Вам пакуль у іншы бок, за плыньню.

Выйшаўшы на бераг, падарожнікі разам паглядзелі на ваду.

Радзюк і іншая публіка зьніклі за паваротам ракі.

*Зусім іншая рэч – фартэпіяна. Пры ўсёй сваёй статычнасьці яно з усіх інструмэнтаў самае скакучае ды пералівістае. Дзіўна тое, што фартэпіяна можа граць просьценькія гамы і пры тым гучаць як незямная, нечалавечая музыка. Умова адна – фартэпіяна павінна гучаць за сьцяной.*

*Сьвет вакол цябе робіцца аб'ёмістым. Гэта як апынуўшыся дзе-небудзь у Чэрыкаве, ты раптам разумееш, што ўсе гэтыя людзі вакол – тут жывуць. Ты мог ніколі іх не пабачыць, не пачуць ані іх, ані пра іх, іх проста для цябе не існавала ніколі, а яны, аказваецца, ёсьць. Неверагодна! І той самы эфэкт, калі за сьцяной зайгралі гамы. Гэта значыць, там ёсьць месца, куды можна пайсьці, гэтаксама як прыехаць у Чэрыкаў. Гэта значыць, можна выйсьці за межы свайго жыцьця? Ці, прынамсі, пераканацца, што па-за тваім жыцьцём яшчэ нешта ёсьць. А*

*што адбываецца, калі мы паміраем? Можа быць, мы проста перабіраемся за сьцяну ці ў Чэрыкаў? Каб ніколі больш не спаткацца з намі цяперашнімі?*

*Але для гэтага павінна зьмяніцца наша якасьць. Бо тое самае адбываецца з музыкай. Яна новая, калі зьяўляецца новая якасьць. Зьявілася ёніка, і зьмянілася ўся якасьць музыкі. І мы чамусьці цэлым сьветам цягнемся да яе, бо ніколі ў жыцьці або прыродзе ня чулі такіх гукаў. Новая музыка – гэта працэс, дакладна супрацьлеглы сьмерці. Бо калі сьмерць падбіраецца да цябе ззаду, новая музыка прыцягвае цябе сьпераду, з заўтрашняга дня, зь белых аблокаў, што так хутка плывуць па небе. І калі чуеш новую музыку, перажываеш нешта падобнае, як ад фано за сьцяной, ці як паехаўшы ў Чэрыкаў. Што гэта было? Ты дакрануўся да вечнасьці.*

## УЗЫХОДДЖАНЬНЕ. ТРЭЦЯЕ ВОКА

– Зьнікла раптоўна, як і зьявілася, – сказаў Кайлюс, гледзячы Зоі ўсьлед.

– А мы засталіся зусім іншыя, барадатыя, распранутыя і прыйшла вясна, – сказаў Зелба.

– Сьвет зьмяніўся вакол нас, – сказаў Кайлюс, – і мы перасталі быць вечнымі. Гэта значыць, што мы памром.

– Мы страцілі сваю несьмяротнасьць, а самі зусім ня ведаем, што нам рабіць далей, – сказаў Зелба.

Калі б нехта назіраў за імі збоку, ён бы заўважыў, што двое мужчынаў на беразе ракі занурыліся ў глыбокую скруху. Вакол буяла зеляніна, стракаталі цвыркуны і рэчка імкліва бегла пад ніцаю вярбою... А тут... Відавочна, жыцьцё іхнае страціла сэнс. Вярнуцца да свайго колішняга распарадку яны не

маглі, бо ня ведалі як. І ніякага іншага распарадку яны ня здольныя былі ўявіць. Але ж і сядзець тут, на беразе, ня мела сэнсу. Таму Кайлюс урэшце прапанаваў:

– Нам трэба зьвязацца з доктарам Блюмам. Сувязі праз паветра няма, таму трэба проста ісьці ды шукаць яго.

– Ты ўяўляеш сабе, куды ісьці? – спытаўся Зелба.

– Зоя казала, што бачыла яго ў транзытным пункце. Значыць, трэба ісьці ў горад.

– Напэўна, нічога лепшага мы не прыдумаем. Толькі сьпярша мне хочацца прывесьці сябе ў парадак, – сказаў Зелба.

– Мне таксама, – пацьвердзіў Кайлюс.

Жаўнеры рушылі да пастарунку. Навокал па ўсім стрэльбішчы мноства аголеных мужчын гулялі ў валейбол, сядзелі купкамі на траве, радаваліся гучнай музыцы, а сярод іх, як нічога ніякага, засяроджана хадзілі ласі. Сьвяціла зыркае сонца і на дрэвах пракідвалася першая квецень.

У невялікім будынку з сылікатнае цэглы пахла цьвільлю і панавала бязладзьдзе. Тым ня менш, жаўнеры адшукалі свой лазьневы рыштунак і заняліся сабою. Неўзабаве яны выглядалі

паголенымі, памытымі і апранутымі ў цывільнае дзецюкамі.

Калі яны выйшлі на ганак, перад імі паўстала зусім іншая карціна. На стрэльбішчы нічога не было – ні мужчынаў, ні ласёў, ні музыкі, ні дрэваў у квецені. Стрэльбішча выглядала звычайным полем, быццам разам з барадамі і бушлатамі яны змылі зь сябе нядаўнюю відзежу. І гэта ўзрадавала іх, звыклых да распарадку і ня надта ахвочых да ўсялякіх небясьпечных прыгодаў.

Кайлюс і Зелба пайшлі да ракі, да таго месца, дзе зьнікла Зоя, і дзе ў бярэзьніку павінна была адшукацца дарога ў горад.

***

Напэўна, калі б Зоя сказала нам, што рабіць, мы б і не шукалі доктара Блюма, – разважаў Кайлюс. – Яна ж сказала тады ўцякаць ад вечнага жыцьця, і мы ўцякалі, у тым ліку і ад Блюма. Гэта значыць, што рэч зусім не ў несьмяротнасьці, а ў тым, што мы ня ведаем, што рабіць. Зоя не сказала, бо ў сьмяротным жыцьці ты ўсё вырашаеш сам, табе ёсьць чаго хацець. А ў вечнасьці ты проста нічога ня хочаш. І калі ты выйшаў зь вечнасьці, трэба, каб нехта

сказаў, што рабіць. Той, хто ўмее думаць. Але ж гэта я і думаю...

– Я думаю, – сказаў ён уголас і аслупянеў.

– Я таксама падумаў пра гэта, – спыніўся побач Зелба. – Нават калі мы рушылі шукаць Блюма, каб ён сказаў, што рабіць, дык гэта ж мы самі так задумалі. Мы сталі іншымі, іначай мы б вярнуліся аглядаць тэрыторыю.

Тым часам яны прамінулі бярэзьнік і выйшлі да аўтобуснага прыпынку. І тут абодва пераглянуліся.

Навокал зусім не было парадку. Асфальтаваная шаша стракацела выбоінамі, паветка была ўся сьпісаная графіці, а за паветкай уздымалася над зямлёй вялізная куча сьмецьця. Жаўнеры, якія за сто гадоў прызвычаіліся даглядаць даручаны ім кавалак зямлі, проста мэханічна рушылі да бязладнага збою скрынак, пляшак, абгортак ды іншае непатрэбшчыны. Гэта ўсё трэба тэрмінова згарнуць у яміну ды закапаць. Але не пасьпелі яны ўзяцца за справу, як нешта прымусіла іх замерці і абаўрэла пазіраць на сьметнік.

З кучы хламу вытыркалася чалавечая нага.

***

Нага была ў калашыне штаноў і ў чаравіку. Выглядала, што астатняе цела хаваецца ў хломазьдзе сьмецьцевай кучы.

Кайлюс дакрануўся да нагі і хуценька адскочыў назад.

– Яна халодная!

Зелба пацягнуў за калашыну і таксама адскочыў.

– Мяса адстае ад косткі!

Жаўнеры агледзеліся: ці няма тут кагосьці яшчэ?

– Гэта мой пратэз, – пачуўся са сьмецьця расьпеўна-п'яны голас.

– Пратэз! Мы знайшлі доктара Блюма, – прашаптаў Зелба Кайлюсу на вуха. – Падарожжа атрымалася надзвычай кароткае.

– Мы знайшлі доктара Блюма, – прашаптаў Кайлюс на вуха Зелбу, – не давялося нават ехаць у горад.

Сьметнік заварушыўся, рассыпаўся ў бакі, і на бязладнай кучы сеў чалавек. Ён быў на добрым падпітку, хіснуўся і асавела ўтаропіўся ў Кайлюса і Зелбу, якія так недарэчы патрывожылі ягоны сон.

Жаўнеры зноў пераглянуліся. У чалавека са сьмецьця не было мядзьведжае галавы і белага халата, як у доктa-

ра Блюма, а была звычайная чалавечая галава і звычайная чалавечая куфайка.

– Але ж пратэз замест нагі сьведчыць, што гэта доктар Блюм, – сказаў Кайлюс.

– Пагатоў яго мы і шукалі, – дадаў Зелба.

***

Мяне завуць Эдвард Вальсынгам. Як я апынуўся на сьметніку, я ня памятаю. Але ўсё выглядае лягічна. Надоечы я хацеў зладзіць дзівосны баль для паважаных людзей з гораду, але гэта ня так проста... Словам, у мяне нічога не атрымалася, госьці ад мяне сышлі незадаволеныя і незаспакоеныя. Вось я й напіўся з гора. А калі ўжо розум пакінуў мяне, дык інтуіцыя, адчуваючы ўсю маю нявартасьць, відавочна, выкінула мяне на сьметнік.

– Што будзем рабіць? – спытаўся ў Зелбы Кайлюс.

– Мы шукалі Блюма, а знайшлі гэтага Вальсынгама, – адказаў Зелба. – Але якая нам розьніца? Галоўнае, мы знайшлі касьцяную нагу. Можа гэта і ёсьць Блюм, толькі яму зноў пераставілі галаву, памянялі халат на куфайку і назвалі іншым імем. Усё гэта ня мае

значэньня. Галоўнае, каб ён сказаў, што нам рабіць.

– Але ж ён ледзьве варушыць языком! – засумняваўся Кайлюс.

– Дык тым лепш, – адказаў Зелба. – Што ў цьвярозага ў думках, тое ў п’янога на языку.

– Маеш рацыю, – пагадзіўся Кайлюс.

***

Нам патрэбная твая дапамога, Эдвард, а табе нашая. Мы даставім цябе дадому, а ты раскажаш нам, што рабіць. Мы страцілі несьмяротнасьць і заўтрашні дзень закрыўся для нас, мы зусім ня ведаем, што з намі будзе.

Знаёмая сытуацыя. Я немалады чалавек і шмат бачыў на сваім вяку. Я ахвотна дапамагу вам. Але памятайце, гэта будзе няпроста і вы мусіце зрабіць немалыя высілкі. Сьпярша нам трэба дастацца да мяне дахаты, там ёсьць усё, што спатрэбіцца ў вашай справе.

Яны працягвалі размову, а тым часам на дарозе зьявіўся цыркавы фургон. Чалавек у цыліндры кіраваў машынай і спыніўся на паднятую Эдвардам руку.

– Неяк хутка Эдвард працьверазеў. І

гэты цырк як тут і быў, – шапнуў Кайлюсу Зелба.

– Выглядае, што ўсё падроблена супраць нас, – адазваўся Кайлюс.

Цыркавы канфэрансье ў цыліндры, размаляваным у амэрыканскі сьцяг, выйшаў з кабіны. Праходзячы міма Кайлюса і Зелбы, ён падміргнуў ім, кінуўшы „Што там далей будзе з нашымі героямі?“, і скіраваў да бакавых дзьвярэй фургона, адчыніў іх і прапанаваў усім прысутным сядаць.

– Наш незвычайны цырк базуецца на Чучундры, і галоўныя артысты ў ім – звычайныя ласі. Іх перавозяць тут. Даруйце, што крэслаў няма, але на сене ехаць вам будзе нават прыямней. Я спадзяюся.

Калі ўсе залезьлі ў фургон, ён зачыніў дзьверы, і падарожжа пачалося. Счакаўшы крыху, Эдвард пачаў свой аповед.

***

Цяпер я канчаткова працьверазеў і магу ўзяцца за выкладаньне нашага пляну. Гэта, паўтару, будзе няпроста.

Рэч у тым, што людзі былі задуманыя ад пачатку, як трохвокія. Трэцяе вока мясьцілася на патыліцы і ніколі

ня спала. Два вокі сьпераду бачаць толькі тое, што было калісьці, у мінуўшчыне, а тое вока бачыла, што будзе заўтра, у будучыні. І вось аднойчы людзі, якія тады былі неўміручыя, зрабіліся раптам сьмяротнымі, а іхнае трэцяе вока на патыліцы заплюшчылася, зьнікла і зарасло валасамі. З таго часу людзі бачаць і ведаюць толькі пра тое, што зь імі было, але зусім не ўяўляюць, што зь імі будзе.

Інакш кажучы, яны рухаюцца ў будучыню задам наперад. Яны ідуць у заўтра, а глядзяць ва ўчора.

– Як ракі, – сказаў Зелба. Ён патроху пачынаў давяраць Эдварду.

– Але ж так нязручна! – абурыўся Кайлюс і раптам заўважыў, што галава ў Вальсынгама стала маленькай і мядзьведжай, пакрытай чорным бляскам.

Гэта быў доктар Блюм.

– Экш! Экш! – засіпеў ён. – Нязручна! А як па-вашаму называецца галоўная чалавечая хвароба? Рак! Гэта хвароба людзкое сьмяротнасьці. Таму яна так і называецца.

Доктар Блюм на хвілю адвярнуўся, а калі павярнуўся, гэта ізноў быў Эдвард.

***

Ужо ў сваёй хаце Вальсынгам працягнуў аповед:

– Каб вярнуць несьмяротнасьць, трэба расплюшчыць гэтае самае трэцяе вока.

Ён доўга корпаўся ў шуфлядах камоды, пакуль нарэшце не знайшоў тое, што шукаў – хімічны аловак. Ён насьлініў яго і намаляваў на Кайлюсавай патыліцы трэцяе вока. Яно было ў трыкутніку, бо ніколі ня мусіла спаць.

– Дзіўная штука гэтая вечнасьць, – распавядаў пры гэтым Вальсынгам. – Аднойчы з гэтай праблемай сутыкнуўся адзін стары камуніст... Цяпер сядай сюды ты, Зелба... Дык вось. Той камуніст, звалі яго маёр Іван, ня мог верыць у вечнасьць, бо такія былі ягоныя перакананьні, і разумеў, што калісьці прыйдзе час паміраць і яму самому. Ён адчуваў, што Джо Блэк ужо стаіць каля ягоных дзьвярэй, і моцна перайма́ўся, што той яго забярэ за далягляд, а тут усё застанецца так, як і было. Як так? Калі вечнасьці няма, значыць, і ўсё вакол павінна зьнікнуць разам зь ім. Падумаў так і ўзяўся за справу... Цяпер ты, Зелба, паглядзі на Кайлюсава трэцяе вока ды намалюй такое самае мне... Дык вось, спачатку

той вэтэран-камуніст спаліў сваё лецішча, дзе вырошчваў і саліў гуркі – у гэтым апошнія шмат гадоў быў сэнс ягонага жыцьця. Пасьля ён выгнаў з дому зяця і дачку, бо ўсё жыцьцё не любіў зяця. Пасьля ён разагнаў усіх увогуле сваякоў, каб не тэлефанавалі і не прыходзілі. І так застаўся адзін. Ён абліў сваю кватэру бэнзынам і ўзяў у рукі запалкі. Але самагубства не ўваходзіла ў ягоныя перакананьні. І сьмерць нешта марудзіла, не прыходзіла. Але сьвет скончыўся вакол яго. Ён жыў яшчэ шмат гадоў, магчыма, ён і цяпер жыве, чакаючы, калі можна будзе пакараць самыя думкі пра вечнасьць...

За вакном вечарэла і Эдвард вывеў сваіх слухачоў са стану задуменьня.

– Цяпер трэба, каб трэцяе вока расплюшчылася. А для гэтага ёсьць некалькі ўмоваў. Трэба, каб была ноч. І каб мы ўсё рабілі задам-наперад у нашым цяперашнім разуменьні. Каб мы ўзьняліся на вышыню. І каб усё гэта было таемна, гэта значыць, забаронена. Тады вока расплюшчыцца, і мы пабачым свой шлях наперадзе – тое, што з намі будзе.

***

Уначы тры постаці выйшлі з хутару Вальсынгама і скіравалі ў горад.

У прыватным сэктары ім ізноў сустрэўся цыркавы канфэрансье ў амэрыканскім цыліндры. Ён ізноў падміргнуў Кайлюсу і Зелбу, але гэтым разам нічога не сказаў.

Яны прамінулі старую пажарную бакшту. Доўга ішлі праспэктамі, пераступаючы трамвайныя рэйкі, пакуль не дасягнулі знакамітага будынку пад шпілем. Побач узвышалася вялізная грамадзіна генштабу.

Трэба заўважыць, што ўвесь гэты шлях тройца пераадолела задам-наперад. Кайлюс і Зелба спачатку наракалі на такі спосаб перасоўваньня, але потым прызвычаіліся. Прызвычаіцца было прасьцей, калі глядзець на Эдварда зь яго касьцяной нагой. У нейкі момант Зелбу нават здалося, што трэцяе вока расплюшчылася, і ён спакойна рушыць, як нічога ніякага.

– Не, – сказаў на гэта Эдвард. – Яшчэ не пара. Мы ня выканалі ўсіх абавязкаў. Цяпер, – ягоны голас перайшоў на шэпт, – нам трэба пранікнуць на тэрыторыю генштабу і ціхенька дастацца да пажарнае лесьвіцы. Пачынаецца самае складанае.

***

Змоўцы дачакалася, калі да брамы пад'ехала вялікая вайсковая машына, і, незаўважныя ў цемры, прасмыгнулі на забароненую тэрыторыю.

[Што ж я кажу – незаўважныя! Яны ж ішлі задам-наперад. І толькі вечная няпільнасьць вайскоўцаў дазволіла падарожнікам зрабіць гэта. Назаўтра ўвесь генштаб будзе вывучаць запісы камэры вонкавага назіраньня. Але гэта ўжо нікому ні ў чым не перашкодзіць!]

Цяпер, мабыць, іх чакала самае цяжкае – залезьці па вэртыкальнай пажарнай драбіне на дах генштабу. Прычым зрабіць гэта трэба было задам-наперад.

– Здаецца, у дзяцінстве мы такім чынам лазілі па „швэдзкай сьценцы“, але я ня памятаю, як гэта робіцца, – прашаптаў Зелба.

– Трэба спрабаваць, – азваўся Вальсынгам. – Першы палезу я, далей Кайлюс будзе мяне падстрахоўваць, а за ім Зелба.

Кайлюс нахіліўся і падставіў сьпіну, а Зелба дапамог Вальсынгаму ўскараскацца на яе. Так першы падарожнік змог дацягнуцца да першай папярочкі. Пасьля Зелба падставіў сьпіну Кайлюсу. Пась-

ля Кайлюс, стоячы на папярочцы, падаў руку Зелбу.

Падымацца па драбіне задам-наперад здавалася немагчыма, але аказалася цалкам рэальна, хоць і вельмі цяжка. Яшчэ Кайлюс і Зелба сяк-так давалі рады, а Эдварду на ягоным пратэзе было зусім нясоладка. Зелба нават пашкадаваў яго, але Эдвард лез, падганяючы сябе блюмаўскім „Экш! Экш!“.

Яныміналі асьветленыя і зацемненыя вокны, увесь час услухоўваючыся ў гукі на зямлі. Праімчала міргалка хуткай дапамогі, засьмяяліся недзе маладыя галасы, прагуў начным праспэктам тралейбус.

„Усё, як сто гадоў таму“ – падумалі адначасова Кайлюс і Зелба.

„Веееечнасьць“ – засела слова ў мядзьведжай галаве.

***

Задам-наперад яны стаялі на высокім даху над начным горадам, які надалей жыў сваім таямнічым жыцьцём. Там вяртаўся з танцаў у Палацы прафсаюзаў Освальд. Там устала маці да трохгадовага Сярожы, які прачнуўся ад нядобрага прадчуваньня. Там драмаў (а можа і не драмаў?) дамок першага зьез-

ду КПСС. Яны гэтага ня бачылі, бо былі адвярнуўшыся. Яны чакалі, калі расплюшчацца іхныя трэція вокі. Яны слухалі свайго павадыра, ці то Эдварда Вальсынгама ці то доктара Блюма (галаву яго не было як разглядзець). Між тым, ён казаў:

– Мэта нашага падарожжа дасягнутая. Цяпер вы бачыце перад сабой зусім не начное места, а тое, што так прагнулі пабачыць. Калі вашае бачаньне супадае, значыць, вы насамрэч гледзіце ў сваё заўтра. Скажы, што перад табой, Зелба?

Раптам пачуўся скрогат, падобны да гукаў сынтэзатара, і са шпілю суседняга дому сарвалася зорка. Яна бразнула аб асфальт і разьляцелася на безьліч агністых аскепкаў. Наваколле асьвяцілася, ноч перамянілася ў дзень, а гарадзкая рака – у сапраўднае мора. І сьветлае неба зьлілося зь яго блакітам.

Зелба няўпэўнена сказаў:

– Як у дзяцінстве.

– Як у дзяцінстве, – паўтарыў Кайлюс. – А што бачыш ты, Эдвард?

Эдвард прыплюшчыў сваё трэцяе вока і сказаў:

– Бачу тое, што і вы... Важнае і няважнае будзе з табою цяпер і пасьля. Сіні карабель у блакітным моры плыве. Усё пачынаецца і сканчаецца і не па-

чынаецца і не сканчаецца. Усё ёсьць і ўсяго няма. Ні вачэй, ні галасоў, ні цялеснасьці, ні духоўнасьці. Толькі сіні карабель у блакітным моры плыве.

*Ад дакрананьня да вечнасьці ўваччу зьяўляюцца сьлёзы. Ня важна, ці гэта адбылося на хаўтурах, ці на канцэрце нечалавечай музыкі. На канцэрце сьлёзы наварочваюцца ў канцы, калі гучыць апатэоз. Проста шаленства нейкае нападае на валторны, габоі, скрыпкі з барабанамі і опэрную цётку.*

*Можа, гэта сьлёзы шкадаваньня самога сябе ад таго, што разумееш – усё гэта цяпер у табе, але забраць гэта з сабой немагчыма. Людзі бароняцца ад такой страты, калі ходзяць па вуліцы са слухаўкамі ўвушшу. Гэта ілюзія, нібы яны ўсё ж забралі, завалодалі музыкай і яна іхная, што яна іх не пакіне і нікуды ад іх не падзенецца. Але гэта толькі ілюзія, а ты ня любіш падманваць сябе. Ты проста на некалькі хвілін затрымаўся ў залі, зь якое сыходзяць ўсе і ўсё, і калі нарэшце застаўся адзін, ты можаш пачуць гэты самы гук. Найважнейшы ў тваім жыцьці – гук ёнікі, якую забыліся выключыць. Яшчэ не канец.*

